*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
**1**
ЛІСТАПАДА
1991 г.
№ 44 (3610)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы —
10 кап.)





**Заўтра — Дзяды. Памянём продкаў, нашых папярэднікаў. Далучымся да вечнасці...**

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# «НА ШТО МЫ ЗДОЛЬНЫЯ?»

(Пачатак на стар. 3.).

Возьмем самую, здавалася б, паказальную для нас — вясковую інтэлігенцыю. Калісьці гэтае саслоўе — настаўніцтва, медыкі, чыноўнікі — так ці інакш было патрэбнае народу, жыло ў непарыўнай еднасці з народам. Што маецца ў гэтым сэнсе сёння? На працягу дзесяцігоддзяў уся вясковая інтэлігенцыя была спрэс камунізаваная, ператварылася ў рычагі партыі на месцах. Змяніліся ўмовы яе жыцця. Настаўніцтва жыве кепска, асабліва цяпер. Калі настаўніца вымушана адбываць са сваімі вучнямі радоўку, якая ўжо там інтэлігенцыя...

А гарадская інтэлігенцыя? Напрыклад, тэхнічная, увогуле навуковая. Што гэта за людзі? У сваёй галіне яны, вядома, дасягнулі нечага важнага. Але ва ўмовах таталітарнай эканомікі ўсе яны былі павязаны з ВПК, працавалі шмат гадоў толькі на ВПК, незалежна ад таго, чым займаліся, біялогіяй ці фізікай. Бо ўсё гэта мела значэнне для ўлады толькі ў тым сэнсе, наколькі яно мацавала ВПК.

Гуманітарная інтэлігенцыя? Журналістыка? Творчыя саюзы? Зноў жа — гэта органы партыі. У тым самым Саюзе пісьменнікаў была даволі вялікая партыйная арганізацыя, кіраўніцтва якой было звенчаком стройнай наменклатурнай сістэмы.

У нас, можна сказаць, не было нацыянальнай інтэлігенцыі. Былі прадстаўнікі розных прафесій, фармальна з'яднаных у праслойку. Як магла «праслойка» рэагаваць, скажам, на тыя самыя рабочыя страйкі? Што ўвогуле казаць, калі, напрыклад, пісьменніцкі з'езд пасля працяглай дыскусіі прымае тэлеграму Гарбачову, якая, як высвятляецца пазней, нікуды не пасланая, згубілася сярод паперак...

**Я. Н.** Зразумела, што інтэлектуальная эліта нацыі метадычна вынішчалася — фізічна, псіхалагічна, матэрыяльна. Таму мы сёння і маем гэткія сумныя вынікі.

Але ж, Васіль Уладзіміравіч, такога паняцця, як інтэлігенцыя, не існуе і ў Злучаных Штатах Амерыкі...

**В. Б.** Так. Агульнавядома, што гэта выключна расійскі феномен.

**Я. Н.** У нармальным грамадстве інтэлігенцыі не існуе, але не таму, што ўся яна расстраляная ці загінула ў канцлагерах. Інтэлігенцыя ў нас — гэта пласт насельніцтва, які ніколі не меў і не мае ўласнасці, а значыць і сваёй справы. Уся гісторыя Расійскай імперыі — гэта гісторыя пытання аб перадачы ўласнасці працаўніку. Але руская інтэлігенцыя так і не сфармулявала гэтага пытання. Не маючы сваёй уласнасці, а значыць і сваёй справы, усім гэтым разначынцам, народнікам, меншавікам, бальшавікам і г. д. нічога не заставалася рабіць, як пісаць свае рэвалюцыйныя тэорыі. Уявіце, што англійскія прадпрымальнікі ці амерыканскія фермеры XIX стагоддзя сабраліся разам, каб напісаць тэорыю рэвалюцыйнага пераўтварэння свету... У іх дзеля гэтага проста не хапіла б часу.

Але ўсе рэвалюцыйныя тэорыі рускай інтэлігенцыі пытанне аб перадачы ўласнасці працаўніку так і не паставілі. Бо ў такім выпадку была б немагчымая ні якая рэвалюцыя—сфарміраваўся б сярэдні клас. Эсэры выступалі за канфіскацыю земляў у памешчыкаў і перадачу іх сялянскай абшчыне, а бальшавікі рукамі народа забралі зямлю і перадалі яе дзяржаве, асновай якой партыя адразу ж і стала, аформіўшыся на глебе манапалізаванай дзяржаўнасці ў клас дзяржаўнай буржуазіі.

Дарэчы, толькі Сталыпін сваёй рэформай паспрабаваў спалучыць у адной асобе працаўніка і ўласніка. Але менавіта за гэта ён і атрымаў кулю ад сацыялістаў.

За 70 гадоў савецкай гісторыі ў становішчы інтэлігенцыі нічога не змянілася — уласнікам яна так і не стала. Між тым менавіта яна разам з рабочымі і сялянамі павінна скласці сярэдні клас — клас сярэдняга ўласніка. У гэты самы клас павінна ўвайсці і дзяржаўная буржуазія ў асобе чыноўніка. Такі клас з'яўляецца асновай палітычнай і эканамічнай стабільнасці сучаснага грамадства, менавіта ён аб'ектыўна яднае праз дачыненні ўласнасці людзей з розных сацыяльных пластоў.

Пры наяўнасці сярэдняга класа натуральна вырашаюцца ўсе міжнацыянальныя канфлікты: беларускаму і рускаму, азербайджанскаму і армянскаму прадпрымальнікам усё роўна хто якой нацыянальнасці. Уласнасць нацыянальнасці не мае.

## Беларускі суверэнітэт і «расійская карта»

**В. Б.** Хацелася б спыніцца на адным фактары, якім, заўважаю, трохі грэбуе наш нацыянальна-дэмакратычны рух. Маю на ўвазе прыклад расійскай дэмакратыі. Усё-ткі многае з таго, што адбываецца ў нас добрага і благога, носіць на сабе адбітак маскоўскіх падзей. Балтыйскія падзеі нашым камуністам не ўказ—гэта, маўляў, чужое племя, адрэзаная луста. Украіна — таксама асобна стаіць. Дагэтуль мы залежым як ад расійскай дэмакратыі, так і ад расійскай рэакцыі. У гэтым ёсць свае плюсы і мінусы, ды яно так. Таму лічу, што, нягледзячы на розныя супярэчнасці, нават канфлікты, нашым дэмакратычным сілам трэба не рваць сувязі з расійскім дэмакратычным рухам.

**Я. Н.** Вядома, Расія і Ельцын зрабілі некалькі неасцярожных палітычных крокаў. Мы, апазіцыя, лічым, што сёння прад'яўляць нейкія тэрытарыяльныя прэтэнзіі — значыць класці галаву на плаху.

Але я пагаджуся з вамі, Васіль Уладзіміравіч, што нам трэба быць асцярожнымі ў тым сэнсе, каб не трапіцца на розыгрышы «расійскай карты». Наша наменклатура можа разыграць яе накшталт «пагрозы з усходу»—абараняемся, зачыняемся, апускаем жалезную заслону і г. д.

**В. Б.** Будзіраванне варажнечы з новым расійскім кіраўніцтвам пачалося адразу пасля таго, як Малафееў заявіў аб выхадзе КПБ з КПСС. Дагэтуль, як мы памятаем, панавалі мір і згода. Нашы ЦК, Саўмін, Вярхоўны Савет літаральна ў рот глядзелі таму ж ЦК КПСС і ніякіх канфліктаў паміж імі не ўзнікала.

**Я. Н.** За ўсім гэтым найперш трэба бачыць чарговую спробу забалбатаць сутнасць нашых праблем. Так, мы абвясцілі Рэспубліку Беларусь незалежнай дзяржавай. Але само жыццё прымушае нас ісці на кантакты ў эканоміцы, а значыць і ў палітыцы. Як з суседзямі на Усходзе, так і з суседзямі на Захадзе. Адпаведна будуць ствараецца ў той ці іншай форме нейкія саюзы — час і здаровы сэнс у рэшце рэшт усё расставіць па сваіх месцах. Галоўнае, каб гэта не былі гвалтоўныя саюзы.

**В. Б.** У пытанні суверэнізацыі наша афіцыйная прапаганда зрабіла адну хуліганскую падтасоўку, калі суверэнітэт палітычны падмяніла суверэнітэтам эканамічным. Разлічана гэта на абывацеля, які адразу пачаў бурчэць — што ж нам цяпер, стаяць у АВІРы, каб у Смаленск трапіць? А яшчэ — дзе ж мы возьмем электраэнергію, вугаль, бензін? Карацей, загінем. Хаця ні апазіцыя, ні дэмакратычныя журналісты нідзе і ніколі не казалі пра аўтаркію. Усё гэта эксплуатуецца ў дэмагагічных мэтах.

І яшчэ. З суверэнітэтам звязваецца падзенне жыццёвага ўзроўню. Таму віною не толькі суверэнізацыя, ёсць шмат іншых прычын, але гэта, безумоўна, будзе. Ды я хацеў бы асабліва падкрэсліць, што працэс станаўлення беларускай дзяржаўнасці нельга ўціскаць у эканамічныя рамкі. Працэс гэты куды шырэйшы і не трэба меркаваць пра яго з пункту гледжання побытавых нязручнасцей. Усім рэспублікам на шляху да незалежнасці давядзецца пайсці на пэўныя страты. Гэта непазбежна. Каб зрабіць выратавальную аперацыю, трэба вытрымаць нейкі боль. Дзеля таго, каб была перспектыва наперадзе, каб можна было захаваць жыццё, нацыю.

Усё залежыць ад нацыянальнай і палітычнай свядомасці народа. На што мы здольныя, такая і доля ў нас будзе.

**Я. Н.** Мы павінны быць незалежныя ў палітыцы — гэта значыць мець правы і магчымасці самастойна вызначаць уласныя прыярытэты, развівацца на Усход і Захад, на Поўнач і Поўдзень. Нас палохаюць: Расія задушыць цэнамі на нафту... Але дазвольце, колькі будзе, у такім разе, каштаваць Расіі транзіт гэтай нафты па трубаправодах праз нашу тэрыторыю? А паветраны транзіт на шляху ў Еўропу?

**В. Б.** Геапалітычнае становішча Беларусі, якое ў мінулым прынесла нам столькі трагедый, мы павінны максімальна скарыстаць дзеля ўласнай выгады. І гэта рэальна.

**Я. Н.** Калі Ельцын гаворыць пра кошт нафты — гэта не шантаж, а заява эканамічна больш моцнага партнёра. Дык не трэба нам закатваць істэрыку, а трэба спакойна падумаць, якія вылучыць контраргументы са свайго боку. А гэта ўжо якасна іншы ўзровень адносін.

## Дэмакраты: стратэгія і тактыка

**В. Б.** Ацэньваючы расстаноўку палітычных сіл у нашым парламенце ва ўмовах, калі ідзе барацьба за вельмі важныя прынцыпы, лічу, што прымірэнчая, згодніцкая, няпэўная пазіцыя — гэта ў рэшце рэшт здрада. Так званы цэнтрызм, як ён разумеецца ў нас, — нешта вельмі ўжо ненадзейнае, хісткае. Такі цэнтрызм адбірае пэўныя сілы злева і ва ўмовах наменклатурнага засілля робіць немагчымым правядзенне ўласнай палітыкі. Цэнтрыстам нічога не застаецца, як далучацца да большасці, падсілкоўваць яе. Думаю, што апазіцыя, якая прытрымліваецца значнай левізны, дзейнічае правільна.

**Я. Н.** На маю думку, сапраўднага, класічнага цэнтра сёння ў нас не можа быць, бо няма для яго сацыяльнай базы ў грамадстве, няма таго самага сярэдняга класа. І ўсе спробы Шушкевіча, Ганчара, Лукашэнкі стварыць цэнтр у Вярхоўным Савеце—безвыніковыя.

Але з пункту гледжання тактыкі тут ёсць адзін нюанс. Так, з аднаго боку, небяспечна, як вы кажаце, «падсілкоўваць» большасць, але, з іншага боку, рабіць гэта трэба. Чаму? Таму што празмерная палярызацыя сіл у парламенце можа прывесці да абвастрэння сацыяльнага становішча ў грамадстве. І я зусім не выключаю такога развіцця падзей, калі нам на пэўным этапе давядзецца ўвайсці ў існуючыя ўладныя структуры. Разумееце, свядома пайсці на нейкія ахвяры, рызыкуючы быць дыскрэдытаванымі, бо рэальных змен зараз дамагчыся нам не дазволяць, а вось адказнасць за пагаршэнне сітуацыі ўскладуць безумоўна. Гэта, магчыма, спатрэбіцца, каб забяспечыць больш-менш плаўны пераход грамадства з аднаго стану ў іншы. Бо сітуацыя зараз, асабліва ў эканоміцы, абвальная.

**В. Б.** Я ўсё-ткі нязгодны з той тактыкай, калі галоўнай мэтай ставіцца так званая нацыянальная згода, гэта значыць, што ў імя недапушчэння нейкіх палітычных абвастрэнняў у грамадстве нават апазіцыя ідзе на пэўныя ахвяры. Разумею, наколькі актуальна гэта, скажам, для Грузіі ці Азербайджана. А для нас, пры нашай традыцыйнай апатыі? Нашай нацыі не хапае палітычнай свядомасці, палітызацыя нашага грамадства не дасягнула нават таго нармальнага ўзроўню, які існуе ў самых спакойных еўрапейскіх краінах. Згадаем, колькі выбарчых акруг не прадстаўлена сваімі дэпутатамі ў Вярхоўным Савеце? Людзі зняверыліся і не хочуць удзельнічаць у палітычным жыцці.

Між тым, ва ўмовах камуністычнага засілля ва ўсіх уладных структурах, толькі народ можа нечага дамагчыся. Каго баіцца наша кіраўніцтва, хто можа прымусіць самараспусціцца той самы Вярхоўны Савет? Толькі масы, толькі вуліца, мітынгі, забастоўка, усеагульная стачка...

Вядома, у нас з'яўляюцца новыя палітычныя партыі, але іх уплыў пакуль што нязначны. Найбольш рэальнай сілай з'яўляецца Народны фронт, які з апорай на масы яшчэ на многае здольны. Не хапае, мне думаецца, радыкалізму. Увогуле я дапускаю магчымасць кампрамісаў, але па кардынальных пытаннях не можа быць прымірэння. Тым больш што вопыт сведчыць — усе гэтыя ідэі не за пісьмовым сталом таго ж Пазняка нарадзіліся, гэта не бібліятэчнае стварэнне — марксізм. Сёння за дэкляраванае некалі Беларускім народным фронтам галасуюць партбосы, якія пасылалі амонаўцаў зрываць нацыянальныя сцягі.

І носьбітам гэтага радыкалізму павінна быць менавіта парламенцкая апазіцыя, бо дачакацца яго ад нашага народа мы зможам, на жаль, няхутка.

**Я. Н.** Сапраўды, усё развіваецца па сцэнарыі БНФ, хочам мы таго ці не хочам. Радыкалізм? Згодны, але — канструктыўны радыкалізм.

## Што рабіць?

**В. Б.** Шэсць гадоў правальніўшы, мы спазняемся ва ўсіх сэнсах. У бліжэйшы час намаганні дэмакратычных сіл найперш павінны быць скіраваны на роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савета і выбары новага парламента.

**Я. Н.** Што рабіць? Распусціць КПБ, забараніць яе дзейнасць, а партыйную ўласнасць перадаць дзяржаве — дзеля вырашэння чарнобыльскай і іншых сацыяльных праблем. Затым трэба прыняць закон аб выбарах на шматпартыйнай аснове. Забяспечыць плаўны пераход ад таталітарнай сістэмы да дэмакратычнай. Менавіта плаўны! Безуладдзя быць не павінна. Спачатку прыняць новае выбарчае заканадаўства, а потым ужо ставіць пытанне аб роспуску Вярхоўнага Савета. Таксама ўжо сёння мы павінны ставіць пытанне аб адстаўцы камуністычнага ўрада Кебіча. Толькі ўрад народнага даверу здолее правесці прыватызацыю не за кошт народа, а для народа. Чым хутчэй зразумеюць гэта спадар Кебіч і яго сябры з былой партакратыі, тым, мабыць, меншай будзе магчымая хваля народнага гневу. І апазіцыя зробіць усё магчымае, каб простыя сяляне, рабочы, настаўнік не былі яшчэ раз на 70 гадоў абдураны дзяржаўнай буржуазіяй.

# «АДНА З УМОЎ САМАЗАХАВАННЯ НАЦЫІ...»

(Пачатак на стар. 2—3).

**стане, то і яе галоўныя шматвяковыя здабыткі таксама маюць жахлівы стан. У выніку многіх разбуральных войнаў, разбуральнай палітыкі партыі наша культура панесла вялікія страты. Я думаю, што трэба пісаць не толькі пра тое, што ў нас вынішчана, але і абнародаваць імёны тых, хто аддаваў загады руйнаваць або ператвараць у кароўнікі і свінарнікі цэрквы і касцёлы. Рэканструкцыя помнікаў, у прыватнасці, Мірскага замка, сядзібы графа Храптовіча ў Шчорсах, замка ў Любчы на Навагрудчыне, расцягнута на дзесяцігоддзі. Асобна хацелася б спыніцца на могілках, якія маюць жудасны выгляд, асабліва ў сельскай мясцовасці. Ды ў горадзе стан іх часта не лепшы. Да гэтай справы трэба далучаць дзяцей, школу. Напярэдадні Дзядоў — свята ўшанавання продкаў — школьнікі маглі б пачысціць магілкі, дагледзець іх. Не будзем шанаваць продкаў, не адродзім нацыю».**

**Лідзія ВАЛЬКО, бібліятэкар, 50 гадоў, г. Баранавічы:**

**«У маёй роднай вёсцы Сіняўская Слабада, што ў Карэліцкім раёне, могілкі настолькі занядбаны, што нават няма агароджы. Побач жыллё, ходзяць куры, гусі, часам і каровы. Людзі чамусьці абыякавы да ўсяго гэтага. Я напісала ліст старшыні калгаса і старшыні сельсавета. Адказу не атрымала, але маю 90-гадовую маму раптам пазбавілі 20-рублёвай даплаты да пенсіі. Увогуле вёска вельмі забытая Богам і людзьмі».**

**Ігар ГАТАЛЬСКІ, інжынер, 26 гадоў, г. Мінск:**

**«Я крыху займаюся краязнаўствам. Запісваю легенды, збіраю фотаздымкі. Апошнім часам сталі аддаваць касцёлы і цэрквы вернікам, дык хоць крыху пачало нешта аднаўляцца. Увогуле становішча кепскае. Вось прыклады. У Маладзечанскім раёне ў вёсцы Палачаны разбураны касцёл, а яго ж згадваў Багушэвіч. Побач у вёсцы Груздава разбураецца царква. А ў в. Высокае Смалявіцкага раёна развальваецца млын і сядзібны дом. У Альшэве на Мядзельшчыне быў цудоўны сядзібны комплекс. І што? Дом расцягнуты па цаглінцы, разбураны. Ёсць шмат збудаванняў, якія не занесены ў збор помнікаў. Так, на могілках у вёсцы Малінаўка, што пад Мінскам, ёсць цудоўная капліца. Яе варта было б аднавіць. У вёсцы пад назвай Манастыр (Талачынскі раён) манастырскі комплекс перароблены пад склад, але нават драўляная цыбуліна над царквой яшчэ засталася. Чаму б не зберагчы будыніну? У Старой Беліцы (Сенненскі раён) у панскім маёнтку калісьці была школа механізацыі, вісела мемарыяльная дошка, што там працаваў Я. Купала. Цяпер жа ўсё разбураецца. Гэтная ж доля і Смалянскага касцёла, што ў Аршанскім раёне. А Пустынскі манастыр, што пад Мсціславам, датаваны XV стагоддзем, з багатай гісторыяй, узведзены на мяжы з колішняй Масковіяй? Ён таксама наводзіць на горкі роздум. Усё гэта трэба аднаўляць, вяртаць да жыцця».**

**Уладзімір ЦУПРАНАЎ, інжынер-канструктар, 30 гадоў, г. Гомель:**

**«Чарговая тэма «рады» мае асаблівае гучанне пад час «Дзядоў». Адносіны да помнікаў дойлідства, як і наогул да спадчыны дзядоў, паказчык адносін і да нашчадкаў. Паказчыкі цывілізаванасці народаў. Паважлівыя адносіны да айчынных помнікаў — адна з умоў самазахавання нацыі. Спадзяюся, што з цягам часу вернем, хоць, пэўна, не дарэшты былую прыгажосць Полацка, Віцебска, іншых гарадоў, адбудуем замкі — сведкі нашай славы...»**

**На гэты раз запрашаем чытачоў да размовы ПРА БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ХАРАКТАР. Якія, на ваш погляд, яго станоўчыя і адмоўныя рысы? Што трэба пераадолець у сабе беларусу, каб ідэі незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту авалодалі ім у поўнай меры?**

Чакаем вашых адказаў па тэлефоне 33-19-85 сёння, 1 лістапада, а таксама ў панядзелак і аўторак 4 і 5 лістапада з 13 да 16 гадзін.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

**У гарадах Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль адбылося святкаванне 100-гадовага юбілею класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Туды са сваёй творчай праграмай выязджалі афіцыйная дэлегацыя рэспублікі і вялікая група дзеячаў мастацтва. У складзе дэлегацыі, якую ўзначаліў міністр культуры Беларусі Я. Вайтовіч, былі пісьменнікі Вольга Іпатава, Алесь Пісьмянкоў, Ніна Загорская, дырэктар музея М. Багдановіча Алесь Бяляцкі, рэжысёры Юрый Цвяткоў і Анатоль Кудраўцаў, журналістка Людміла Бацюшкава, намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп.**

**Сёння мы змяшчаем нататкі нашага карэспандэнта, прысвечаныя першай частцы святкавання.**




## 1. Ніжні Ноўгарад

На Волзе, у якую паблізу ўпадае Ака, ажыўлены водны рух. Уніз і ўверх па цячэнні снуюць нафтавыя танкеры, баржы, трох- і чатырохпалубныя пасажырскія лайнеры, турыстычныя на падводных крыллях караблі. А расказвае мне пра іх віды і маршруты, пра зарэчны прамысловы раён Канавіна (ад «Кума, віна!») Уладзімір Васільевіч Палавінкін, сам калісь марак, «тэхнар» па адукацыі, а зараз кіраўнік гарадской пісьменніцкай арганізацыі.

З акна гасцініцы відна Верхня-Волжская набярэжная (яшчэ нядаўна імя Жданава). Сама рака далёка знізу: гістарычны цэнтр горада размешчаны на стромкіх Драздовых гарах. Тут адміністрацыйнае і культурнае асяроддзе Ніжняга Ноўгарада — навучальныя ўстановы, музеі, тэатры, архітэктурныя помнікі. Сярод апошніх даволі добра захаваўся другі па велічыні ў Расіі крэмль. Часткова разбурана толькі адна сцяна — што ля самага берага Волгі. Ля той, што па схілу ўзбегла ўгару, узвышаецца гордая постаць В. Чкалава. Насупроць крыху «маладзейшыя» сцены — педінстытута, на адной з іх крэйдай напісана, што будынак у аварыйным стане і ля яго лепей не стаяць.

Здаецца, горад за апошнія 50 год не зведаў як бамбёжак, так і рамонту. Кідаецца ў вочы пано з выявамі «трох багатыроў» і надпісам «Марксизм-ленинизм— знамя нашей эпохи», а праз вуліцу каля аблвыканкома сабраліся дэманстранты з патрабаваннем, каб будынак аддалі пад бібліятэку. Тым больш, што былі прэцэдэнты: будынак гаркома (былы губернатарскі палац) перададзены мастацкаму музею, а Дом палітасветы стане гарадскім цэнтрам культуры.

Аблвыканком, заўважым, размясціўся не абы-дзе — на тэрыторыі крамля. Адна з яго вежаў, згодна паданню, акроплена крывёю прыгажуні Алёны. Дружыннікі схапілі яе на вуліцы, і разам з вёдрамі і каромыслам дзяўчына была замуравана жыўцом, як таго патрабавала традыцыя, для ўмацавання сценаў. Паданне захавала нават дакладную дату жахлівай падзеі, што адносіцца да пачатку XIII стагоддзя. Думаецца, ці не таму так доўга і непахісна трымалася да нядаўняга часу апошняя ў свеце імперыя, што ў аснову яе пакладзена не адно — тысячы, мільёны чалавечых жыццяў?..

Максім Багдановіч пражыў у Ніжнім 12 год, амаль палову свайго кароткага веку. Мабыць, ён перамераў крокамі ўсе вуліцы гэтага прысадзістага, драўляна-цаглянага, купецкага (тады) горада: бацька, Адам Ягоравіч, штодня вадзіў дзяцей на прагулкі. 1908-ым годам, апошнім годам пражывання сям'і ў горадзе, датаваны верш «Мае песні». Гэта шчымлівае прызнанне юнака, які «дагэтуль не патрапіў палюбіць і саўсім, бадай, праўдзіва шчэ не жыў». Пагодзімся, што гэта так. У Ніжнім Максім толькі рыхтаваўся да праўдзівага жыцця. Ён зачытваўся кнігамі з багатай дамашняй бібліятэкі, у якой, па словах бацькі, «не было нічога пошлага», і не надта налягаў на вучобу: у 4-ым класе гімназіі нават пакідаўся на другі год. Зрэшты, тут «паспрыяла» рэвалюцыя 1905—1906 гг.: заняткі часта зрываліся з-за студэнцкіх хваляванняў, Максім, як і многія, прымаў у іх актыўны ўдзел. Акрамя таго, ён змалку меў дадатковы, найважнейшы для яго прадмет для вывучэння — беларусістыку. Не гімназія, нават не сямейнае выхаванне фармавалі яго як асобу — засяроджанай унутранай работай ён сам ствараў сябе. Там жа, у Ніжнім, прабіліся першыя парасткі яго паэтычнага дару, якія буйна і вольна закрасавалі пазней — у Яраслаўлі, у Мінску, у Вільні.

Гарачы, страсны, апантаны, захоплены — так характарызуе Адам Ягоравіч сына на той перыяд. Вось не падумаў бы, мяркуючы па вядомым партрэце, дзе перад намі стала-спакойны, амаль флегматычны малады чалавек! А яшчэ ён быў вясёлы і смяшлівы, і хоць яго для прафілактыкі і вазілі на кумыс разам з іншымі дзецьмі, ніякіх прыкмет фатальнага для сям'і захворвання тады не было відаць.

Ён бачыў гэты горад новым, прыгожым, заспеў славутыя ніжагародскія кірмашы, якія цяпер спрабуюць аднавіць. Пры ім Волга была чыстай і рыбнай ды і паветра, вядома, не такім, як зараз. Толькі ў 30-ых гадах з дапамогай Форда збудавалі магутны аўтазавод, пра які мясцовыя людзі гавораць, што, маўляў, ёсць вялікія заводы, ёсць гіганты, ёсць супергіганты, а ёсць Горкаўскі аўтазавод.

Не падобна, каб тут вельмі чакалі беларусаў, хаця прынялі гасцінна. Наша выязная пяцідзённая праграма забрала ў гаспадароў нямала часу. Здарыўся таксама прыкры збег мерапрыемстваў: паколькі горад нядаўна набыў статус адкрытага, сюды з'ехаліся пасля з 70 краін свету — спатоліць цікаўнасць і падрыхтаваць глебу для магчымых эканамічных сувязей. Натуральна, асноўная ўвага ім, замежнікам...

Ля драмтэатра імя Горкага, дзе адбыўся ўрачысты вечар, сціпла прытуліўся рэкламны шчыт: «Максім Багдановіч. 100 год». Рэкламы канцэрта не было ніякай, прынамсі, афішы я не ўгледзела, і ў зале — нямым дакорам і гаспадарам, і гасцям — пуставала досыць многа месцаў. Тыя з ніжагародцаў, што ўсё ж прыйшлі на свята, канешне, не пашкадавалі: адно наша «Свята» разварушыць любога.

Былі ўражаны, захоплены беларускімі артыстамі, беларускімі цымбаламі, беларускімі строямі нашчадкі Максіма — стрыечныя пляменніцы, сёстры Анастасія Кунцэвіч і Таццяна Селіванаўская. Мужа Анастасіі Глебаўны Аркадзя Бараховіча ведаюць у нас як даследчыка і папулярызатара творчасці выдатнага паэта, перакладчыка яго вершаў на рускую мову.

У фае перад адкрыццём фотавыстаўкі, прысвечанай юбілею паэта, адна з сясцёр светла заплакала: «Для вас гэта гісторыя літаратуры, а для нас здымкі з сямейнага альбома». А перададзены ў мінскі музей многія з іх якраз ніжагародскімі родзічамі Максіма.

На жаль, нашага генія ў Ніжнім ведаюць мала. Дзіўна, але факт: паўтарамільённы горад, які паставіў помнікі ўсім сваім славутым землякам і стракаціць мемарыяльнымі дошкамі (у тым ліку — і М. Багдановічу), горад, які дзесяткі гадоў ствараў і песціў культ заснавальніка сацыялістычнага рэалізму, пакуль што зусім не ўяўляе, хто такі Максім Багдановіч для нас, беларусаў, і для ўсяго свету. Занадта доўга мы самі даходзілі да ўсведамлення гэтага: адно на 95-годдзе паставілі нарэшце помнік паэту ў сваёй сталіцы. Чаго ж хацець ад суседзяў?

Пакуль няма гаворкі пра самастойны музей ці хаця б філіял музея ў Ніжнім Ноўгарадзе. Нам бы захаваць тое, што створана,— далі зразумець. Так што «Максім усё яшчэ пры Максіме», як дасціпна сказала на сустрэчы з кіраўнікамі вобласці і горада Ніна Загорская. Што гэта так, сведчыць і поўная абыякавасць да ўрачыстасці з боку мясцовых газет.

Асноўны клопат па сустрэчы гасцей лёг на ўпраўленне культуры Ніжагародскага аблвыканкома, у прыватнасці — на намесніка начальніка Вячаслава Іванавіча Собалева. Па даўняй завядзёнцы ў цэнтры ўвагі аказалася не столькі падзея (хаця стогадовыя юбілеі не так часта здараюцца), колькі сама дэлегацыя. Вось чаму праграма (так было і вясной у Ялце) уключала ў сябе больш экскурсій, чымся сустрэч з людзьмі, а менавіта апошняе і магло б надаць большы розгалас юбілею. Трэба сказаць, што чалавечыя, таварыскія кантакты з уладамі горада ў такіх выпадках таксама маюць немалое значэнне: усе культурныя сувязі, усе канкрэтныя справы, звязаныя з ушанаваннем таго ці іншага імені, адбываюцца праз людзей, іх намаганнямі. І таму я перакананая, што гэта юбілейная паездка шмат што зменіць у стаўленні ніжагародцаў да беларускага паэта, якому суджана было расці і сталець у аддаленасці ад Радзімы і, нягледзячы ні на што, стаць гонарам нашай літаратуры.

На заканчэнне згадаю словы Міхася Стральцова, які лічыў, што без Максіма Багдановіча нам многага не зразумець у нашым літаратурным, культурным жыцці, што «творчасць ягоная, можа, як нічыя іншая, мае працягласць у наш час і яшчэ далей — у будучыню».

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

---

**Васіль САХАРЧУК**

## Сустрэча з пілатам

И понял он, что беззащитен,
каким и должен быть поэт.

Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ.

**...Калі ўзнікла пагроза**
**майму жыццю,**
**хаця назваць так**
**гэтае зняверанае існаванне**
**не паварочваецца язык,**
**з усяе моцы**
**я кінуўся насустрач святлу,**
**што яшчэ ледзь-ледзь мігцела**
**на небасхіле.**
**А Пілат,**
**які пільна сачыў за мною,**
**схапіў камянюку**
**і з шалёнаю сілаю**
**шпурнуў яе мне ўслед.**
**Але яна прасвістала міма,**
**як, дарэчы, і ўсе астатнія.**

***І калі апошні камень***
**інерцыя ледзь дакаціла**
**да маіх ацяжэлых ног,**
**Пілат абярнуўся ў пачвару**
**і, асядлаўшы каня,**
**упіўся вострымі шпорамі**
**ў яго гарачы жывот...**
**І тут я прачнуўся...**

**Прачнуўся,**
**але не суцешыўся:**
**пачынаўся новы дзень,**
**і мяне чакала**
**сустрэча з жывым Пілатам,**
**які даўно дамагаўся**
**таго ж,**
**чаго хацеў прыснёны.**

## Пад вясёлкай

**«Люблю толькі белае»,—**
**сказаў адзін.**
**«Люблю толькі чорнае», —**
**сказаў другі.**
**«Толькі мой колер**
**на пачатку і пры канцы жыцця**
**адкрывае браму таямніцы», —**
**прамовілі яны ў адначас**
**і самаўпэўнена разышліся.**
**«Але не шлях да яе, —**
**сказаў трэці**
**і спачувальна паглядзеў**
**ім услед. —**
**Гэтыя колеры**
**спакон веку**
**альбо спаборнічаюць,**
**альбо супрацьстаяць,**
**альбо варагуюць.**
**Аднак,**
**не ўмеючы жыць**
**ні ў згодзе,**
**ні разам,**
**ні паасобку,**
**на мяжы**
**святла і цемры,**
**дня і ночы,**
**шчасця і гора,**
**яднаюцца ў вясёлцы.**
**Бо толькі яе колеры**
**асвятляюць шлях**
**да таямніцы».**

## Супрацьстаянне

Ёсць папярэджанне душы.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.

**Ёсць папярэджанне душы,**
**і я яго спазнаў,**
**як толькі да глухой мяжы**
**зняможаны дапяў,**
**мяркуючы свой век дажыць**
**у сцішанай журбе.**
**Яно ўва мне дасюль трымціць,**
**бы жылачка на лбе.**
**Хаця ў сабе дабро і зло**
**змірыць я даў зарок,**
**а зблізіў іх — і ўраз святло**
**змяніў сляпучы змрок.**
**Калі ж нянавісць і любоў**
**з'яднаць паабяцаў,**
**змрок адступіўся, але зноў**
**дзень так і не настаў.**
**Супрацьстаянне — вечны знак,**
**які ў сабе, бы кон,**
**нясе стары, нясе юнак**
**і чуе наўздагон:**
**лепш рэшатам ваду насіць**
**і мора палівань,**
**чым незмірымае мірыць**
**і палюсы яднаць.**

## Паводле біблейскага

**Плаціць патрэбна й за намеры,**
**і ці ў журбе ты, ці ў злабе —**
**якою меркай будзеш мераць,**
**такой адмераць і табе.**
**Хіба не хочацца пра звады**
**забыць, каб з лёгкаю душой**
**з людзьмі заўсёды гэтак ладзіць,**
**як ты б хацеў — яны з табой!**
**Але да мэты так высока,**
**што ледзьве бачыцца яна:**
**прыкмеціў сук у братнім воку —**
**ў сваім не ўчуў і бервяна.**

УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»

**Алесь ДАВЫДАЎ**



Алесь Давыдаў нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Палянаўка Веткаўскага раёна. Сёлета скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Друкаваўся ў «Чырвонай змене», паэтычным зборніку «Квадра».
Сёння штотыднёвік змяшчае некалькі вершаў у прозе маладога аўтара.

## Пакутніца

**Калісьці была я шчасліваю,
бо мела дзяцей удзячных,
якія шанавалі ды баранілі сваю маці.
Потым стала пакутніцай,
бо змардавалі мяне чужаземцы,
забіўшы дзяцей маіх любых.
Праслыла я і вялікай грэшніцай,
бо дала жыццё нашчадкам гвалтаўнікоў сваіх.
Звалася неразумнаю дабрадзейкай,
бо прытуляла ўсякіх блудняў,
якія абрабавалі і прадалі мяне.
Тады пакаялася я —
і дараваліся мне грахі мае,
і сплаціліся пакуты мае,
і амаладзілася кроў мая,
нарадзіўшы сыноў адданых,
што ўратуюць ад злыдняў
пакутніцу — маці сваю.**

## Вінаваты

**Прачнуся аднойчы ад прыкрага сну —
і злякнуся жахлівай явы:
зваявалі маю Бацькаўшчыну чужынцы
і жудасны гвалт над ёю ўчынілі —
спляжылі Божыя храмы,
мудрыя кнігі спалілі,
адназемцаў маіх —
у кайданы закавалі.
Убачу — адзін я застаўся, апошні,
і здасца мне воля пятлёю задаўнай...**

**Загалашуся ў адчаі да продкаў:**

**— Ты вінаваты...—**

**прашэпча быльнёг на забытых магілах.**

**Спытаю ратунку ў нашчадкаў:**

**— Ты вінаваты! —**

**грымне іх вырак з нябёсаў бязмежных.**

**Учуўшы навокала шабас нялюдскі,**

**ашчэруся зверам загнаным**
**І нема завыю: я вінаваты!..—
і ўрэшце напраўду збуджуся
ад вар'яцкага згубнага сну.**

## Ваўкалак

**— Што гэта за страшыдла бегае вакол вашай вёскі! — штораз пытаюцца ў местачкоўцаў заезджыя людзі.— Па вачах — чалавек, але ў поўсці звярынай... І скача, як воўк! — дзівяцца яны.**

**— Гэта наш дзед Нупрэй, — распавядаюць падарожным вяскоўцам.— Калісьці ён жыў заможна, сям'ю вялікую меў. Яго хата вунь там на ўзгорку, ля царквы стаяла. Старэйшыя кажуць, што прыйшлі аднойчы ў нашу вёску нейкія нехрысці, увесь пажытак Нупрэеў забралі, хату спалілі, а жонку ягоную з дзецьмі — ў пекла сваё пацягнулі... З таго і перавярнуўся Нупрэй у Ваўкалаку,—шэпчуць, пужліва азіраючыся, кабеты.**

**— А ці можа ён адноў стаць чалавекам! — дапытваюцца цікаўныя.**

**— Можа, ды толькі не хоча,— адказвае за ўсіх незнаёмцам старэнькая бабуля.— Кажа, што ён — чалавек, а людзі — звяры. Таму і жыве адзін у лесе, чакае, пакуль усе перавернуцца ў Ваўкалакаў. Кажа, бедачына, што тады радзіна яго вернецца, і ён зноў азавецца Нупрэем...**

**Збянтэжаныя пакідаюць мястэчка вандроўнікі, употай глядзяцца ў люстэркі, шукаючы ў сваіх абліччах звярыныя знакі. Ды блюзняцца ім — адно чалавечыя вочы Ваўкалака — Нупрэя.**

## Гасцінец

**Сцежка, што здавалася падарожнаму бясконцай,
аднойчы вывела яго на залюджаны гасцінец.
Азіраецца разгублена падарожны —
пагбапал гасцінца, нібы воі, няўсцяжна
шыхтуюцца незлічоныя камяніскі.
Кожны з іх мае свой надпіс — абліччa...
Левабочыць тады падарожны
і няўцямна імёны чытае:
...Усяслаў, Ефрасіння, Францішак,
Кастусь, Янка, Уладзімір...
Правабочыць з гасцінца
і зноўку чытае:
...Захопнік, Здраднік, Ліхадзей,
Вешальнік, Кат, Рабаўнік...
Дзівіцца падарожны нязвыклай варце;
спяшае за тымі, што крочаць паперадзе яго,
слухае галасы тых, што ідуць услед за ім —
і вусцішна робіцца падарожнаму:
Куды збочыць!..
кім назвацца!..
І ўзгадае тады імя,
з якім пусціла яго ў Свет маці.**



Фота Ул. КРУКА

# КАЛІ МАЎЧАЦЬ ЗВАНЫ

*апавяданне*

*Ірына Жарнасек*



ІМЖЫЎ маркотны дождж. Сцюдзёны вецер шумеў у чорным голлі дрэў, шматаў у шыпшынавым кусце кавалак сівой цыраты, блытаў доўгія пасмы вербалозу, што звісалі над рабацiністым ад каротkіх злых хваляў возерам. І сярод гэтае няветлае сцюжы ды макрэчы раптам няўцешным крыкам зайшлося немаўля.

Калі б Рабачком быў вернікам, ён, магчыма, перажагнаўся б—гэткім неспадзяваным і адчайным быў плач немаўляці. Але ён не быў вернікам і таму адно разявіў рот, сполашна вырачыў вочы ды прырос да зямлі. Забыўся Рабачком і на справу, якая выгнала яго ў гэткую непагадзь з кабінета.

Нялёгкая служба ў Язэпа Астраўцова: ці табе дождж цурболіць, ці вые мяцеліца, а калі трэба, то і пойдзеш праўдуні вечар паныла падумаў Рабачком і ўжо спакайней, паважней скіраваў па сцежцы, задаволены, што не дайшоў да сельмага, не стрэўся з Манашкаю. Спатыкацца з ёй—значыць, надоўга сапсаваць і без таго не надта баявы настрой.

Прыпыніўся каля піянера ў каротkіх штоніках з пачарнелымі абабітымі каленкамі, які моўчкі трубіў у свой горн з таго самага часу, калі ў панскім доме пасяліўся дзетдом, што праз некалькі гадоў з'ехаў у новы будынак, забыўшыся на свайго гарніста. Рабачком паклаў на пастамент каля піянеравай нагі партфель, націснуў на галаву мокрую шапку, наставіў каўнер і энергічна пацёр азалелыя рукі. Праз хвіліну ён ішоў, бадзёра памахваючы партфелем. Бач ты, а гэтак жаласна скавычуць, заразы,—рыхтык дзіця, згубіўшы матчыну цыцку, нязлосна, нават весела падумаў пра неспадзяванае здарэнне.

Ягоны настрой не сапсаваўся нават тады, калі праз нямыя вачніцы былой панскай сядзібы ён убачыў на тым беразе возера пагрузчык, які, дзюбнуўшыся каўшом у асаку, стаяў сабе нерухома, глядзеўся ў возера, — як і тры дні таму. П'янь, валацуга, шантрапа, стомлена падумаў пра Васіля Чаропку, які ўчора бажыўся ў ягоным кабінеце, што заўтра, гэта значыць, сёння, ён возьмецца за розум, ірване штомоцы старцер і нагрузіць нарэшце даяркам сенажу, а пасля паставіць пагрузчык на месца. Абяцанкі-цацанкі, уздыхнуў Рабачком і паклыпаў далей, чапляючы на боты мокрае леташняе лісце, шматкі газет, у якіх нехта неінта некалі загортваў.

Справы, справы, справы.. Хто не ведае, колькі іх у Рабачкома, той, вядома, можа грэць зубы на сонцы ды балбатаць пра тое, як ён б'е мух у сваім кабінеце. Нябось, як каторую паганяе вакол хаты п'яны мужык, дык імчыцца да яго па ратунак, не раз з крыўдаю думаў Рабачком пра лапатлівых навадворскіх кабет. Ды і не надта каб з крыўдаю. Усім мілы не будзеш—гэта ён зразумеў даўно і цвёрда. І нават не імкнуўся быць мяккім, добрым ці якім там яшчэ.

Так і жыў. Абшарпаўся, патрэскаўся па кантах ягоны партфель, які ён прыдбаў адразу ж, атрымаўшы пасаду. Летась жонка новы купіла—не прывык. Пахадзіў з ім пару дзён і пераклаў паперу ў стары—зручней, мякчэй, па-свойску.

Ён любіў з усімі жыць па-свойску. У начальніка не гуляў. Не тое, што другі глотку дзярэ: «Я вас! Я вас! Вы ў мяне!..» Не, Рабачком гэткага не любіў. Ціха, мірна, без ляманту—можна і гэтак.

Можна, вядома. Калі б усе гэта разумелі і не тыцкалі палкі ў колы. Асабліва, калі тачка ляціць з гары. Дык жа знаходзяцца! І тады ўжо: альбо палка—трэсь, альбо кола—пстрык. Зручней, вядома, калі аб'едзеш, размінешся, ды ці ж заўсёды пашчасціць? На гэты раз, здаецца, пашэнціла, здаецца, праскочыў патырчаку, а ўсё адно начамі не спіцца. Вось паслязаўтра ён ужо ж адхрапе за ўсе свае трывогі...

Апамятаўся, калі выскачыў з парку. Пачуў сваё мармытанне і апамятаўся. Не, гэтак і псіхам тут зробішся, пашкадаваў сам сябе і паныла, з зайздрасцю падумаў пра навадворскіх баб, якія аб'явілі яму сёлета вайну: «Сядзяць самі недзе ў цёплым ды добрым, а тут і ў непагадзь спакою няма. Ім што? Яны пісьмы ва ўсе канцы паслалі пра тое, што хочуць маліцца, а гад Рабачком не хоча аддаць ім касцёл. Ліха іх ведае, як яны там пі-

матку шукаць. І будзеш ногі біць, пакуль не знойдзеш. На тое ён і Рабачком—рабочы камітэт саўгаса «Шлях перамогі», значыцца.

Рабачком адхінуў ад вушэй высокі настаўлены каўнер чорнага паліто, выцертага па швах да шызых рубцоў, прыўзняў над галавой чорную скураную кепку—няўцямна і сполашна ўзіраўся бездапаможнымі без акуляраў вачыма на мокрыя кусты. А на былой сядзібе паноў Палынскіх, якая сумна глядзела на свет двума радамі пустых ваконных праёмаў, крычала дзіця. Жаласна і патрабавальна. Так, як крычаць галодныя немаўляці.

Не мела баба клопату, паныла падумаў Рабачком, чарговы раз адчуўшы ўвесь цяжар сваёй пасады. Ды нічога не зробіш—трэба прымаць меры. І неадкладныя.

Чамусьці на дыбачках, так і не накрыўшы лысую галаву шапкаю, не зважаючы на макрэчу, што тонкім цурком бегла паміж лапатак, ён падаўся да сельмага—за сведкамі.

«А-а-а-у-у!..» — усхліпнула з новай сілаю дзіця. Да гэтага адчайнага і патрабавальнага голасу раптам далучыўся яшчэ адзін. Колькі ж іх тут? Рэшткі заласоў вакол бліскучай Рабачкомавай лысіны варухнуліся і пачалі расці; ён сарваўся з месца і панёсся—не на галасы, а ў процілеглы бок.

Каторая ж гэта сучка?.. Перад вачыма мільгалі твары навадворскіх маладзіц — усе чамусьці белазубыя, усмешлівыя, нахабныя.

Енк, аднак, не цішэў, нягледзячы на тое, што Рабачком нёсся ад яго ўрасцяжку. Наадварот, плач гучнеў і быццам пачаў даганяць Рабачкома.

Так і бег ён—прыціскаў да грудзей бліскучую мокрую шапку і карычневы партфель, аперазаны для большай надзейнасці чорнаю гумкаю... Пакуль яго не абагналі каты—чорныя, шэрыя, рабыя. З шалёным веснавым лямантам яны сіганулі паўз яго, нават адзін па назе цернуўся, і ўся гэтая гамэрня скіравала да былога брыгаднага клуба, ці, як яго некалі называлі, чырвонага кутка, што адзінока тырчэў цяпер на ўзгорку за сельмагам, нікому не патрэбны, хіба што катам.

Церусіў дождж. Шумеў мокрым голлем вецер. Ціха і маркотна зрабілася зноў у былым парку былых паноў Палынскіх.

Адчыніліся дзверы сельмага, і на ганак выйшла Анэля, альбо Манашка, як ахрысціў яе Рабачком за празмерную, на ягоны погляд, веру ў Бога. Не мела баба клопату, каторы ўжо раз за сённяш-

салі, жаласна ж, пэўна, склалі, заразы,— каб і ледзяныя сэрцы растаялі. Ды, пэўна ж, назбіралі ягоных грахоў... Якая ж скарга без грахоў? Назбіралі недзе, зар-р-разы!»

А чаго дабіліся? Некалькі лішніх камісій на ягоную галаву. І ўсё. Касцёла ім ніхто, вядома, цяпер не аддасць, грошыкі не абы-якія саўгас на яго бухнуў—цяпер то ўжо не адступіцца. А піўца ў ім можна будзе выпіць ужо заўтра—адразу ж, як адчыніцца новая культурная кропка. Гарэлачкі, мужыкі, прабачце, не дачакаецеся, хоць некаторыя ўжо і паразяўлялі з надзеяй раты, а вось піўцом ды шампанскім можна будзе паласавацца. Піўцом, рыбкай... Учора вунь ужо рыбакі прыходзілі, пыталіся, ці можна будзе здаваць у новую кропку рыбу. А чаму ж і не? Абы па закону, з розумам—тады ўсім будзе добра.

З касцельнай брамы насустрач Рабачкому сыпанула дзятва.

— Ну, арлы, усё ў парадку?— бадзёра гукнуў да іх Рабачком.

Але «арлы» паўтульвалі галовы ў плечы і далі лататы; адразу ж за брамаю боўталіся і порстка выскоквалі з агромністай лужыны, узнімаючы вышэй галоў пырскі.

Увесь цвінтар вакол касцёла быў пакрыты роўным слоем чарназёму, па якім ў розныя бакі разбягаліся дзіцячыя сляды. Добра ўсё ж ён прыдумаў—з чарназёмам. А то было хоць не глядзі на спаласаваную трактарамі глыжаватую гліну, з якой рэбрамі вытыркаліся палкі, акрайкі дошак, жалязякі. А так: некалькі машын чарназёму, падшызанцы пару ўрокаў пашмулёгалі граблямі—і парадак.

Дзверы ў касцёле новыя, са свежымі падцёкамі фарбы. Асцярожна дакрануўся пальцам—не мажацца—і з палёгкаю ўздыхнуў: бо куды б ён дзяваў вочы, калі б заўтра высокае начальства пайшло адсюль на застолле з зялёнымі пісягамі на рукавах?

І смех і грэх. Колькі снегу растала на гэтым самым цвінтары, а для яго зноў пачалася нейкая бязглуздая тузаніна з гэтымі самымі дзвярыма, на гэтым самым месцы, мала таго—з гэтаю самаю Манашкаю.

Зацятая, амаль заўсёды маўклівая барацьба паміж імі пачалася даўно, яшчэ як яны абое разбівалі абцасы на вечарынах пад ахрыплую двухрадку аднавокага дзядзькі Стася. Тады ж пяюха ды скакуха Анэлька неспадзявана і ўзняла маўклівы бунт супраць баявога важака моладзі Язэпа Астраўцова. Ён разам з некалькімі актывістамі-камсамольцамі ледзьве не кожную раніцу прыбівалі да касцельных дзвярэй цвікамі-соткамі агромністы плакат: «Религия яд—береги ребят». Сам касцёл быў гады два як зачынены, але некалькі старэнькіх бабулек, з тых, што не мелі сілы дабрацца за дзесяць кіламетраў на набажэнства ў Свільскі касцёл, ішлі ў нядзелю на парослы быльнягом цвінтар. Жагналіся, маліліся, уздыхалі і выціралі рагамі хустак вочы. Ні на кога яны ўжо не сварыліся, не пужалі страшным судом, як у тую вясну, калі на касцельныя дзверы ўлада павесіла замок. Адно плакалі і ўздыхалі. Вось для іх, а таксама для тых, хто штодзень ішоў на працу паўз касцёл, і вешалі камсамольцы свае плакаты. Бо цвёрда былі ўпэўненыя: ні на адзін дзень яны не маюць права аслабіць антырэлігійную прапаганду. А ўначы іхняя праца бясследна знікала, пакінуўшы на дзвярах чатыры дзіркі ад цвікоў.

І тады Язэп, сціснуўшы зубы, зноў раскручваў трубку чырвонага паркалю. Сцёпка Кудзеля з чатырох касматых яловых рэек збіваў рамку, нацягваў на яе тканіну, і яны ішлі ў хату-чытальню, дзе грудастая Кацька спалохана і безнадзейна прасіла: «Можа, хопіць, хлопцы? Усё адно ж здзяруць!» «Я ім здзяру!»—гразіўся Язэп на невядомых ворагаў новага і перадавога і кідаўся з самакруткай у зубах па чытальні, потым спыняўся і пахмурна пытаўся ў Кацькі: «Ці, можа, і ты пасцішся ў пятніцу, а ў нядзелю баішся іголку ўзяць у рукі? Глядзі—праверу-у-у...» Кацька хіхікала: «Яшчэ што выдумай!», густа чырванела і даставала з шафы разведзеную ў слоіку вапну і чорную галавешку. Галавешкай яна малявала на тканіне густое павуціннe, з якога падаў на маленькага чалавечка вялізны крыж. А ўнізе Кацька выводзіла пэндзлем, памакнутым у вапну: «Религия—яд...»

Нарэшце скончыўся паркаль, у сельсавеце болей не выпісалі, і зацятая барацьба спынілася. Не было ў ёй ні пераможцаў, ні пераможаных. Можа, ніколі і не зведаў бы важак прагрэсіўнай моладзі Язэп Астраўцоў свайго ідэйнага ворага, калі б не пагалоўны перапіс жывёлы.

У Анэлінай хаце, расклаўшы кніжку на стале, ён акуратна паставіў дзве палачкі, якія азначалі карову і кабана, запісаў і восем курыц разам з пеўнем і ўзняў позірк на гаспадыню. Тая падпірала круглым плячом печ і моўчкі глядзела на яго.

— Ну што,—сказаў Язэп гучна і ляпнуў фаліянтам па стале,—вядзі, гаспадыня, у хлеў!

Стрываў, не ўзвіўся на ейнае нібыта здзіўленае, але больш здзеклівае:

— Нават неяк і няспрытна весці чужога чалавека ў гной. Ды і як ты будзеш лічыць цяпер курэй? Яны ж яшчэ па полі швэндаюцца—раптам якую не злічыш? Каб не нарабіць табе бяды, Язэпка! Можа, па захадзе сонца, як яны на куросадні збяруцца, прыйдзеш?

— Ладна байкі баяць! Некалі мне,— падняўся Язэп.—Пайшлі ў хлеў!

— А боты цэлыя маеш? А то пасля дажджу ў мяне патоп...

У хляве і напраўду было гразка і цёмна. Ён загадаў гаспадыні выцягнуць з вакенца куль саломы. Пакуль Анэлька тузалася, Язэп трохі агледзеўшыся ды прызвычаіўшыся да цямрэчы, знямеў: у перакошаных каровіных яслях стаялі іхнія антырэлігійныя плакаты. Дакладней, не самі плакаты, а тое, што ад іх засталося—рамы са шматкамі чырвонага спэцканага паркалю.

— У другім месцы пагаворым,—адно сказаў, крутнуўся, паслізнуўся, але ўсё ж утрымаўся на нагах Язэп і подбегам выправіўся з хлява, так і не зірнуўшы ў катухі.

І пагаварылі б. Але ўвечары прыйшоў Анэльчын мужык з бутлем самагону: капнеш на стальніцу, запалкай чыркнеш—сінім агнём займаецца. Пліхнулі ды запалкай чыркнулі раз, а выпілі ўсё астатняе.

І было тое навукай. На ўсё жыццё. Бо каб не пагаліўся тады Язэп на дармавізну ды не паабяцаў на захмялелую галаву маўчаць, а давёў справу да канца, не меў бы ён цяпер столькі клопату. Даўно няма на свеце Анэльчынага мужа, а Анэлька як псавала так і псуе Астраўцову кроў, ваюе супроць ягонай актыўнай пазіцыі.

А пазіцыя простая, без лішніх загагулін: раз было сказана, што рэлігія—яд, дык і беражы ад яе рабят. Бо дзеці, як усім даўно вядома, наша светлае будучае, а ў ім, як таксама добра вядома, не месца цёмным сілам. А як ты аберажэш дзяцей? Ясна як. Толькі выкарчаваўшы цямноцце з іхніх бацькоў. Вось і ўзваліў на свае плечы гэтую цяжкую ношку Рабачком. Не адзін ён, вядома. Але гэта і дрэнна, не раз думаў ён, бо ў гэткай справе патрэбна рашучасць і цвёрдасць, а не разважаць бясконца, як зрабіць, каб цішэй было. Ён быў упэўнены: што зачынілі ў свой час касцёл, вядома ж, правільна, а вось што не ўзарвалі адразу— кепска. Гэткае, быў ён перакананы, трэба сячы адным разам—каб не мазоліла лішне вачэй ды каб не ўзбрыдалі ў неразумныя галовы дурныя думкі.

Тады б, пяць гадоў таму, Манашцы і не ўздумалася б, што касцёл можна зноў адчыніць. Як запалку тады ўсё адно хто ў стог саломы падкінуў. Пабеглі бабы па хатах, подпісаў пад жаласлівым лістом назбіралі і пачалі закідваць сваімі чалабітнымі ўсялякае начальства. У канторы не надта спужаліся тых лістоў, нават пасмейваліся, няхай, маўляў, пацярэбяцца там, наверсе, будуць ведаць, што не ў мёдзе яны тут купаюцца, у былой Заходняй Беларусі.

І ледзьве не дажартаваліся. Прыйшла зверху папера: «Рассмотреть на месте». Во тады і забегалі, адзін на аднаго пальцамі пачалі тыцкаць, кожны быў бы рады атрэсці ад той дзіўнай паперчыны рукі.

А па Новым Двары тым часам папаўзла чутка, што прыйшоў чаканы дазвол. Бабы не доўга думалі—мётлы ў рукі і ў касцёл смецце вымятаць. Іхнія мужыкі, што тыя мурашы, туды-сюды, туды-сюды з насілкамі. Адкуль з'явілася на цвінтары цэгла—адзін Бог, мусіць, ведаў. Пачалі латаць сцены.

Начальства спачатку быццам змярцвела, а потым—у гвалт. Старшыня сельсавета на машыну—і ў вобласць. Праз дзень вярнуўся з патрэбнай паперай, і ўвесь рух вакол касцёла спыніўся.

І было ціха аж да сёлетняга. Ды закірдзілася новаму загадчыку клуба зрабіць у касцёле піўную, ці, як ён называў, «культурную кропку». Недзе, бачыш, гэта таксама зрабілі—надта файна атрымалася. Трэба, значыць, і нам выкарыстаць будынак з розумам. У перспектыве, марыў загадчык клуба, можна будзе ў ім розныя гулянкі наладжваць—вяселлі, хрэсьбіны, праводзіны ў армію.

Рабачком жа адразу казаў: «Кропку то кропку, але вакол яе задужа шмат пытальнікаў». Ды ягоныя пытальнікі наватары спісалі на ўзрост: маўляў, баіцца стары новага. Словам, яго не паслухалі. І закруцілася-завярцелася. Звон пра іхнія навацыі даляцеў да вышэйшага начальства. Там ідэю падтрымалі, яшчэ і ў прыклад пачалі ставіць тым, хто марудна пераймаў новыя падыходы. І Рабачкому нічога не заставалася, як пагадзіцца і пачаць кіраваць стварэннем «ачага культуры».

Манашка ж з бабамі тым часам не чакалі з мора пагоды. І зноў паляцелі ва ўсе канцы іхнія просьбы: «Аддайце касцёл». І зноў мо ў тысячны раз Рабачком праклінаў бутлю гарэлкі, якая гэтак недарэчна ўстрэла ў гэтую гісторыю. Калі б ён, малады ды нявопытны дурыла, не паквапіўся тады на першачок, а прыцягнуў Анэльку на ўсю катушку да адказнасці за шкодную барацьбу супраць агітатараў, не было б цяпер патрэбы надта галаву круціць. А сама надзейней, безумоўна, было б ірвануць—тады, адразу, у трыццаць дзевятым. Усяго і клопату было б, што пасляць вучняў расцягнуць цэглу. А каб і не расцягнулі—занава б ніхто касцёл будаваць не надумаўся. Не дапусцілі б...

На дзвярах былой захрыстыі, а цяпер гэта быў кабінет дырэктара новай культурнай кропкі, вісеў замок.

— Пачынаецца! Работнічак! — грукнуў Рабачком нагой па дзвярах так, што вараннё з лямантам успырхнула над ліпамі.

Дырэктарам прызначылі Ясюка—былога зборшчыка падаткаў. Лёгкі хлеб, спакойны, дык жа во не цэніць—адразу пайшоў паверх лесу. Не, трэба лейцы адразу нацягваць, а то як пазнае слабінку...

Але не паспеў Рабачком прыкінуць, як ён будзе гэта рабіць: ад касцельнай брамы да яго шыбаваў Ясюк. Ён загарлаў, перакрыкваючы варон:

— Я свет абабег—цябе шукаў!—і ўзмахнуў рукамі, быццам скрыдламі.

Дакучліва каркала вараннё. «А што ж гэта заўтра будзе? — з раптоўнаю трывогаю падумаў Рабачком і толькі цяпер узгадаў сваю ідэю спілаваць дзве самыя высокія і разгалістыя ліпіны, на якіх найболей было гнёздаў.—Гэта ж з пілой «Дружба»— цеслярам гадзіна работы. Ах ты, галава садовая! Не, не тая памяць робіцца: як не запішаш у кантычку, каму што загадаць, так і не загадаеш».

— Ты, калі не маеш чаго рабіць, хоць бы варон пастраляў. А то заўтра як цвыркне каторая Першаму на капялюш...

Нейкі момант Ясюк, вырачыўшы вочы, маўчаў, потым апамятаўся, паверыў, што гэта не жарт, і з гатоўнасцю баўтануў галавой:

— Абы стрэльба—пастраляю! У мяне яшчэ вока—о-го-го! Я яшчэ і па вераб'ях, і па сініцах, калі хочаш ведаць, мог бы. А па воронах—раз плюнуць!

Ясюк зірнуў туды-сюды і, не знайшоўшы, чым выцерці выпацканыя ў гліну рукі, так і застаўся стаяць з растапыранымі пальцамі. Толькі цяпер Рабачком убачыў, што ў Ясюка ў гліне не толькі рукі, а і штаны, і бок балонеўкі. П'яны, як цюцька, п'яны, дайшло нарэшце да Рабачкома.

— Звольню чорта лысага! Пад бок табе падвезлі? З дастаўкай на дом? Не паспеў адчыніць сваю забягалаўку, а ўжо прысмактаўся?

Уся злосць, крыўда, усё абурэнне на Манашку і навадворскіх баб, на неразумных цяперашніх начальнікаў, на загадчыка клуба з ягонай дурной ідэяй, нарэшце, на гэты маўклівы гмах—касцёл, які шмат гадоў псуе Рабачкому кроў, выліліся на п'янага Ясюка.

— Майсеевіч... Галубок... — мармытаў Ясюк.

— Я табе пакажу лёгкі хлеб!

— З нерваў гэта я! З перажыванняў! Гэтая ж дурная Полька раз'енчылася сёння, што не будзе прадаваць заўтра ў касцёле шампанскае. Баіцца, дурніца! «Сонька, — крычыць, — адмовілася, Верка адмовілася, а я таксама не хачу грашыць разам з вамі, парцейцамі!» Во якое цямноцце, галубок ты мой! Але ж і яшчэ горшая навіна ёсць.

Ясюк выцер рукі аб чыстае крысо балонеўкі, а Рабачкому тым часам як усё адно хто пад калені ззаду ўдарыў—ажно зыбнуўся ад прадчування нейкага чарговага паскудства.

— Падала на нас у суд, дарагі ты мой Майсеевіч, гэтая шалёная Манашка. З сельсавета паведамілі. І знайшла ж да чаго прычапіцца—быццам замахнуліся мы на нейкі важны помнік. Я там не дапёр, што да чаго: які помнік і па кім. Але напісана гэтак. Ага... Быццам гэтаму касцёлу ці трыста, ці колькі там гадоў і чапаць яго няможна, а мы ў ім перагародак нагарадзілі ды памалявалі нанова. Што будзе, Майсеевіч, як думаеш? Ты ж лепей ведаеш, ці могуць за гэта колькі прыпаяць?

Знік бы ты, Ясюк, з маіх вачэй, раптам сумна і стомлена падумаў Рабачком. І яшчэ недзе глыбока ўсярэдзіне варухнуўся з'едлівы чарвячок—успомніў, як не падтрымаў ён у свой час гэтую ідэю з новай культурнай кропкай. Ды раптам з гэтага маленькага чарвячка, нібы з таго вусеня, успырхнуў лёгкі матылёк надзеі: «А ці запісана ў пратаколе таго даўняга сходу, што ён, Рабачком, быў супраць?» Ён жа яшчэ тады, яшчэ тады быў супраць! Ён добра памятае, як прапанаваў тады зняць нарэшце з касцёла крыжы і зрабіць у ім склад мінеральных угнаенняў. Ну так... Вось каб яго паслухаліся, то цяпер вывезлі б адтуль угнаенні—і норма. «Божа мілы! Божа літасцівы!— звярнуўся раптам Рабачком у думках да Усявышняга, гатовы на тую хвіліну паверыць нават у Яго існаванне.—Што запісана ў тым пратаколе?»

— Пайду,—уздыхнуў ён, але чамусьці не крануўся з месца, толькі паўтарыў:— Пайду.

І—працягваў стаяць.

— А ці слухаеш, Майсеевіч, калі «галасы»? — папытаў ні з таго ні з сяго Ясюк.—Ну-у, з-за рэчкі каторыя? Па радыё?

Рабачком ашалела зыркнуў на бакі і ўтаропіўся на Ясюка.

— Баяць, нібы на днях «Свабода» перадала, што ў нашым касцёле быццам бы ўжо адпраўляецца служба, хвалілі кіраўніцтва за мудрасць. Не, ну ты толькі падумай! Брэшуць, аказваецца, і там... Не правераць факты, а...

— Заткніся...—зморана вымавіў нарэшце Рабачком і пасунуўся прэч. Ён ужо не меў сілы абурацца. Ён стаміўся ад гэтай зацяглай тузаніны з касцёлам. Ён патраціў на яе, можна сказаць, сваё здароўе! Ён парваў нервы! Ён.. А касцёл стаіць! Як стаяў. І яшчэ невядома, хто перамог у гэтай тузаніне...

Ужо адчыняючы дзверы брамы, задраў голаў і зірнуў на крыжы, якія ўпіраліся ў хмарнае вечаровае неба і зліваліся з ім. «Ірвануць трэба было яшчэ тады, у трыццаць дзевятым»,—стомлена і раўнадушна падумаў Рабачком.

— Майсеевіч, дык, можа, пастраляць усё ж варон? — гукнуў ад захрыстыі Ясюк.—Мне што! Я магу!

— Пастраляй,—адказаў Рабачком. — На ўсялякі выпадак пастраляй.

# ШТО ЗА ПРАФЕСІЯ...

**Рыскі да творчага партрэта Зінаіды БРАВАРСКАЙ**

У свой час мне давялося перакласці з балгарскай мовы цікавую п'есу выдатнага балгарскага паэта і драматурга Валерыя Пятрова «Тэатр — любоў мая». Адна з актрыс, што дзейнічаюць у ёй, увесь час пытаецца ў сябе і ў сваёй калежанкі, другой актрысы: «Сапраўды, як растлумачыць нашу прафесію? Што гэта? Прафесія?.. Місія?..» І далей: «Дык хто мы такія? Што людзям гаворым? Што гэта — тэатр? Хто завецца акцёрам? Чаму мы такія па літасці Бога?». Ролю адной з гэтых актрыс у спектаклі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, пастаўленага ў 1982 годзе, выконвала народная артыстка Беларусі Зінаіда Іванаўна Браварская. Пошук адказу на гэта пытанне і быў для яе галоўным у *асэнсаванні свайго персанажа*, своеасаблівым рухавіком, дзякуючы якому развівалася на працягу спектакля гэтая роля. З. Браварская, як і ў шматлікіх папярэдніх сваіх ролях, і тут у раскрыцці сцэнічнага вобраза ішла ад сябе, ад сваёй індывідуальнасці, ад свайго асабістага жыццёвага вопыту — эмацыянальнага, духоўнага, грамадзянскага.

Кім толькі ні даводзіцца быць кожнаму артысту за гады сваёй творчай практыкі?.. Каралямі і падначаленымі, героямі і блазнамі... «Заменіш парык, нешта зменіцца ў грыме, і ўміг лэдзі Макбет капрызліва прыме аблічча Афеліі, Норы абрысы... І што мы за людзі, акцёры, актрысы? Як шлях той знайсці, каб падаць усё гэта?» — я зноў цытую тэкст ролі Актрысы з п'есы Валерыя Пятрова і са спектакля купалаўцаў.

У *Зінаіды Браварскай* — вялікі творчы шлях, бясцэнны, каштоўнейшы жыццёвы вопыт, не пазбаўлены і апёкаў вайны, і цяжкай горычы страт любімых і блізкіх людзей. Дзесяткі выдатных роляў, сыграных у тэатры, і кіно, на тэлебачанні і радыё.

Самымі рознымі былі яе гераіні. Даследчыкі творчасці Зінаіды Браварскай звычайна падкрэсліваюць яе амаль неабмежаваны жанравы дыяпазон. Ёй даручалі ролі псіхалагічна-заглыбленыя і гратэскна-жанравыя, яна іграла ў меладрамах і вадэвілях, камедыях і трагедыях. Многа пісалася, напрыклад, пра такія яе ролі, як Маша («Жывы труп» Л. Талстога), Паўла («Зыкавы» М. Горкага), Юлечка («Даходнае месца» А. Астроўскага), Нора («Нора» Г. Ібсена), Ніхаль («Дзівак» Н. Хікмета), Агнія («Традыцыйны збор» В. Розава), Маскалёва («Дзядзечкаў сон» паводле Ф. Дастаеўскага), Бажашуткава («Амністыя» М. Матукоўскага)..

І ў кожную новую работу актрыса абавязкова дадавала часцінку свайго жыццёвага вопыту, сваіх эмоцый і перажыванняў, сваю вельмі багатую эмацыянальнасць жаночай натуры, даволі шырокі дыяпазон свайго інтэлекту, сваёй душы. *Апрача бясспрэчнага таленту*, выяўлялася ў гэтых сцэнічных вобразах і добрая прафесіянальная падрыхтоўка: Зінаіда Браварская скончыла Усесаюзны інстытут тэатральнага мастацтва па класу вядомых рускіх акцёраў-педагогаў Тарханава і Плотнікава.

Выхаванка рускай акцёрскай школы, Зінаіда Браварская даволі арганічна і натуральна ўпісалася ў беларускі нацыянальны тэатральны кантэкст. Справа не толькі ў дакладным разуменні сутнасці таго ці іншага персанажа, у пранікненні ў асаблівасці літаратурнай першакрыніцы. Напрыклад, паспех камедыі Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім» быў абумоўлены многімі прычынамі, у тым ліку і ўдзелам у ёй у вострахарактарнай ролі Зёлкінай Зінаіды Браварскай.

Дакладнае разуменне і спецыфікі драматургіі, і рэжысёрскай задумы выявіла актрыса ў *вобразе Маці са спектакля «Зацюканы апостал»* А. Макаёнка, які ў тэатры імя Я. Купалы паставіў рэжысёр Барыс Луцэнка. Але мне хацелася б падкрэсліць сёння здольнасць Зінаіды Браварскай, чалавека, які нарадзіўся далёка ад Беларусі, увайсці ў беларускую моўную стыхію, адчуць мелодыку беларускай гаворкі. Паслухайце, напрыклад, як яна пачынае ў якасці вядучай спектакль «Паўлінка»! Мушу зазначыць, што і дагэтуль, працуючы над новымі ролямі, *Зінаіда Іванаўна не саромеецца* пытацца, як правільна гучыць тое ці іншае слова. Вельмі карысныя яе заўвагі і тады, калі ў тэатры ставіцца на сцэне перакладная п'еса. Браварская чуе моўную падробку, моўны фальш, і часта сама прапануе сінанімічныя слова ці словазлучэнне, каб думка ці фраза гучала па-беларуску *больш арганічна і натуральна*. Моўны слых — гэта, лічу, сапраўдная адзнака таленту.

Прыгадаем, напрыклад, Паўла Кармуніна, або артыста Рамана Філіпава, таксама рускага па паходжанні, але які ў кароткі тэрмін так дасканала вывучыў беларускую мову, што і дагэтуль, скажам, «Пагоня» Максіма Багдановіча добра помніцца *на слых менавіта ў яго выкананні*. Заўважым, што Раман Філіпаў чытаў і на эстрадзе, і ў кампаніях сяброў «Пагоню» тады, калі яна была яшчэ афіцыйна забаронена. А ўвогуле я згадваю пра гэту здольнасць і Зінаіды Браварскай, і Паўла Кармуніна, і Рамана Філіпава таму, што, на вялікі жаль, у нас нямала акцёраў, і нават з вельмі высокімі тытуламі і званнямі, якія нарадзіліся ў Беларусі, жывуць і працуюць на гэтай зямлі, а беларускай мовы так і не засвоілі.

У пэўнай ступені этапнай работай для Зінаіды Браварскай з'явілася роля Клеі ў спектаклі «Ліса і вінаград» Г. Фігейрэду, пастаўленым у тэатры імя Я. Купалы рэжысёрам Барысам Эрыным у 1957 годзе. Для мяне асабіста прагляд тады гэтага спектакля стаў адным з наймацнейшых уражанняў юнацтва, дагэтуль незабыўнае эмацыянальнае ўзрушэнне, выкліканае *ігрой Барыса Платонава* (ён іграў у гэтым спектаклі Эзопа) і Зінаіды Браварскай у ролі Клеі. Уявіце: у час, калі на рэпертуарнай афішы тэатра ў асноўным — назвы п'ес, дзе захаваны ўсе нормы дазволенай ідэйнай і эстэтычнай рэгламентацыі, дзе героі, уціснутыя ў цесныя рамкі розных службовых і вытворчых узаемаадносін, калі перадавое павінна абавязкова перамагчы ўсё адсталае, — у гэты час раптам з'яўляецца спектакль, дзе героі вядуць гаворку пра адвечныя чалавечыя ісціны: што такое жыццё, што такое рабства, што такое каханне, што такое здрадніцтва... Клея Браварскай — вельмі абаяльная жанчына, прыўзнятая легендай-першакрыніцай і ў той жа час звычайная, чалавечная, з усімі ўласцівымі ёй слабасцямі і недахопамі. Пакахаўшы раба Эзопа, такая Клея так і не змагла *парваць са сваім асяроддзем*, і ўсю эвалюцыю гэтай драмы даволі тонка перадава*ла актрыса* ў дуэце са славутым Барысам Віктаравічам Платонавым.

Сярод многіх успамінаецца яшчэ адна роля Зінаіды Браварскай, якая запомнілася на доўгія гады і якую, мяркую, добра помняць мінскія тэатралы. *Гэта — удава Бэкбік* у спектаклі «Што той салдат, што гэты» Бертальда Брэхта, які быў пастаўлены ў 1969 годзе Валерыем Раеўскім. У правераную, дазволеную і выверaную стылістыку акадэмічнага нацыянальнага тэатра, заснаваную на прынцыпах бытавой і псіхалагічнай дакладнасці, раптам уварвалася зусім іншая сцэнічная мова, дзе галоўнае — не падрабязнае падабенства, не дэтальны псіхалагічны рэалізм, а сцэнічны вобраз, метафара, абагульненне, сімвал, парадокс, адначасовае ўздзеянне і на пачуцці і на розум, падключэнне гледача да суперажывання, да актыўнага роздуму разам з персанажамі. У тую пару даволі смела і нечакана прагучала імкненне В. Раеўскага і стваральнікаў спектакля распачаць гаворку аб тым, што агульначалавечыя каштоўнасці і вышэйшыя і важнейшыя, чымсьці класавыя. Адпаведна *з рэжысёрскай задумай працавала* ў гэтым спектаклі і Зінаіда Браварская.

Своеасаблівы працяг яе акцёрскага пошуку шляху да чалавека, да ўсебаковага раскрыцця асобы персанажа, мы бачылі ў спектаклі «Гульня з кошкай» Іржы Эркеня (1976 год, рэжысёр Барыс Эрын), дзе Зінаіда Браварская выконвала ролю Эржы. Актрыса і тут ставарае вобраз зямной, цалкам рэальнай жанчыны, раскрывае гісторыю яе шчодрага, часам безразважнага жыцця, яе вернасці першаму каханню, але робіць гэта з добрым адчуваннем жанру, крыху гратэскна, але вельмі тонка, дакладна, захоўваючы перш за ўсё пачуццё меры. І тут, трэба адзначыць, Зінаіда Браварская працуе ў дуэце з выдатнай актрысай Стэфаніяй Станютай, якая іграе другую гераіню камедыі — Гізу. Пачуццё ансамблевасці, уменне ўвайсці ў неабходны ансамбль, — таксама пэўная адзнака майстэрства.

Між іншым, гэта даволі няпроста — іграць выразна жанравую ролю з малюнкам, які падкрэслівае толькі асобныя рысы героя ці гераіні і адначасова стварaць жывы, індывідуальна акрэслены вобраз. Напрыклад, толькі ў самым *канцы спектакля «Памінальная малітва»* паводле Шолам-Алейхема з'яўляецца Зінаіда Браварская ў ролі персанажа, які нават не мае свайго імя і называецца проста — Маці Менахема. Літаральна пяць-шэсць хвілін знаходзіцца актрыса на сцэне, але мы даволі выразна паспяваем адчуць, што гэта за чалавек, шчыра ўсміхнуцца той недарэчлівай трагікамічнай сітуацыі, у якую трапіў персанаж Браварскай. Такая ж і яе Настаўніца са спектакля «Вежа» Аляксея Дударава і Уладзіміра Някляева, дзе зноў-такі гратэскныя рысы персанажа цікава спалучаюцца з жыццёва-праўдзівымі дэталямі, нават калі яны і крыху нечаканыя, парадаксальныя (ну, напрыклад, калі яе Настаўніца заяўляе, што яна абвяшчае галадоўку).

Насуперак вульгарызатарскаму тэатразнаўству і крытыцы, якія абвінавачвалі беларускі нацыянальны тэатр у дыктаце рэжысуры, купалаўцы з кожным годам усё болей і глыбей пачыналі разумець, што галоўнае ў сцэнічным мастацтве — канцэпцыя асобы, канцэпцыя духоўнага *вызвалення* Чалавека ад усяго — ад натоўпу, ад самага рознага асяроддзя, ад сацыяльнага, нацыянальнага, урэшце маральнага прыгнёту.

Тыя, хто бачыў спектакль па трагікамедыі сучаснага італьянскага драматурга Альда Нікалаі «Матылёк, матылёк...» на малой сцэне тэатра імя Янкі Купалы, помняць, як паступова, крок за крокам, раскрывае Зінаіда Браварская сутнасць гераіні — Эды, неадназначнага, вельмі складанага характару. Паводзіны Эды—Браварскай не зусім нармальныя, лагічныя з пункту гледжання нашага чалавека, нашага гледача (назавём яго ўмоўна «гома савецікус», каб было зразумела, што *мы маем на ўвазе*). *Але актрыса* робіць іх вельмі пазнавальнымі, такімі, што яны дахо-

# ЗБЯРОМСЯ Ж ТАЛАКОЮ!

## Ствараецца новы музей

Памяць чалавечая не бязмежная. Яна часам суб'ектыўная і *нават кан'юнктурная*. Бываюць падзеі, факты, якія не хочацца ўспамінаць, можна нават забыцца на іх, калі яны па пэўных прычынах былі не такімі, як хацелася б сёння. Усё гэта зразумела. Але нашчадкам, каму несці эстафету культурнага развіцця нацыі, неабходна ведаць праўду, якой бы яна ні была. А праўда—перш за ўсё дакументы, матэрыяльна-рэчавыя доказы гістарычнай спадчыны ў любой дзейнасці чалавека, асабліва культурнай.

Дзяржавы, народы, якія з павагай адносяцца да сваёй мінуўшчыны, музеям аддаюць асаблівую ўвагу і павагу. Ці не таму ў гурце спраў, клопатаў па адраджэнні нацыянальнай свядомасці *беларусаў знайшлося* месца для акцыяў у гэтым кірунку. Маю на ўвазе загад Міністэрства культуры аб заснаванні рабочай групы па стварэнні Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Зроблены першы крок, юрыдычны акт. *Але агульнавядома, што* ад загаду да яго рэалізацыі дыстанцыя агромністага памеру. На гэтым шляху ўжо сустрэліся цяжкасці і праблемы, ад перадолення якіх залежыць далейшы лёс новай навукова-даследчай, культурна - асветнай установы, дзяржаўнага сховішча, прапагандыста гістарычных і сучасных помнікаў тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь.

Пачнём з матэрыяльнай базы, а канкрэтней — з памяшкання, дзе плануецца размяшчэнне музея. У дакументах сказана: «Музей знаходзіцца па адрасе: г. Мінск, Музычны завулак, д. № 3, № 5». (Дарэчы, у час гутаркі з З. Стомам, які жыў у даваенны час у адным з гэтых дамоў, ён настойліва называў не «Музычны», а «Музыканцкі» завулак. Ёсць над чым задумацца спецыялістам па тапаніміцы). Дык вось, месца размяшчэння музея пазначана. Аднак гэта толькі тэарэтычна, бо цяпер адзін з гэтых будынкаў (т. зв. «Дом масонаў») рэстаўрыруецца, а ў другім працуюць установы іншага профілю і іх перасяленне праблематычна. Цяпер жа мы знаходзімся часова (хаця і кажуць, што няма нічога больш пастаяннага, як часовасць) у «Гасцёўні У. Галубка» на вул. Старавіленскай, 14.

Няма патрэбы займаць увагу чытача падрабязнасцямі нашых нягод. Скажу толькі, што на 17 супрацоўнікаў мы маем сёння тры пакоі, пяць сталоў і ніводнага тэлефона. Разам з тым у фондах музея ўжо ёсць матэрыялы высокай каштоўнасці. Вядзецца актыўная пошукавая і навукова-даследчая праца па розных напрамках — ад выяўлення новых гістарычных дакументаў пра тэатр і музыку ў архіўных ды навуковых установах да сустрэч, гутарак з жывымі сведкамі, дзеячамі тэатральнай і музычнай нівы Беларусі, збор і закупка адпаведных матэрыялаў.

Пры музеі створаны, пастановай Міністэрства культуры, навукова-метадычны савет, у які ўвайшлі вядучыя спецыялісты рэспублікі на чале з доктарам мастацтвазнаўства прафесарам Г. Барышавым. Пры ўдзеле і кансультацыях з высокакваліфікаванымі музыкантамі, тэатразнаўцамі, гісторыкамі распрацаваны асноўныя напрамкі і тэматычная структура будучага музея. У нашым актыве і пэўныя практычныя мерапрыемствы — *разам з тэатрам* імя Я. Купалы арганізавана выстаўка да яго 70-годдзя, у кастрычніку адкрываецца выстаўка, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння І. Буйніцкага, супрацоўнікі музея ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы выстаўкі беларускіх музычных інструментаў, наладжаны дзелавыя сувязі з Музеем старажытнай беларускай культуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з саюзамі тэатральных і музычных дзеячаў, інстытутамі культуры і тэатральна-мастацкім, кансерваторыяй.

Якія ж цяжкасці ў супрацоўнікаў на першым этапе пошукава-даследчай дзейнасці? Перш за ўсё — неадпаведнасць у вызначэнні прыярытэтнасці паміж архівамі, музеямі і прыватнымі асобамі ў час збору матэрыялаў. Вось прыклад. Нядаўна нашы музыказнаўцы набылі пэўныя матэрыялы з кампазітарскай спадчыны Юрыя Уладзіміравіча Семянякі ў яго ўдавы Ліліі Іларыёнаўны. Усё па правілах, законна, тым больш, што гэта спадчына з'яўляецца набыткам рэспублікі. Мінае колькі дзён, як да нас з'яўляецца камісія па спадчыне Ю. Семянякі ад Саюза кампазітараў і заяўляе, што мы не мелі права гэтага рабіць без *узгаднення з камісіяй. Дзе пра гэта сказана?* У якім юрыдычным акце зафіксавана? Такога дакумента няма. Думаю, каб пазбегнуць аналагічных непаразуменняў, трэба стварыць нейкую арбітражную структуру пры Міністэрстве культуры, якая б магла сказаць аўтарытэтнае слова ў спрэчных выпадках.

Музей з'яўляецца дзяржаўнай установай і робіць усё, каб надзейна захаваць ці то ўласныя рэліквіі той або іншай сям'і дзеячаў мастацтва, ці то матэрыялы арганізацый, творчых калектываў, якія не маюць магчымасці гэтага зрабіць.

Яшчэ адзін аспект дзейнасці калектыву музея. Пакуль што мы абмежаваныя (па матэрыяльных прычынах і з-за адсутнасці належных сувязяў) тэры-

дзяць да сучаснага гледача, хвалююць яго.

Амаль адначасова з работай над роллю Эды ў спектаклі «Матылёк, матылёк...» Зінаіда Браварская як рэжысёр-пастаноўшчык выпусціла спектакль «Яны любілі яго» сучаснага венгерскага драматурга Акаша Кертаса. Зварот Браварскай да рэжысёрскай працы быў зусім не выпадковы: яна была супастаноўшчыкам вядомага купалаўскага спектакля паводле рамана І. Мележа «Людзі на балоце», ставіла і іншыя спектаклі. Да таго ж трэба ўлічыць і доўгія гады яе працы ў якасці педагога Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, выхавацеля некалькіх пакаленняў артыстаў.

П'еса венгра Акаша Кертаса прыцягнула ўвагу Браварскай менавіта магчымасцю весці больш шырока і глыбока размову аб сутнасці існавання чалавека ў сучасным грамадстве, магчымасцю прааналізаваць, як таталітарная сістэма ціснe на чалавека нават у самых нечаканых, нават інтымных сітуацыях. Разам з маладым мастаком Віктарам Цімафеевым было знойдзена ў гэтым спектаклі своеасаблівае, я б сказаў, рытмічнае вырашэнне прасторы ў выглядзе старадаўніх, зробленых з цёмнага дрэва шафаў, якія, нібы вартавыя, стаяць, ахоўваючы ўсё і сочачы за ўсім, што адбываецца ў доме... Персанажы спектакля былі нібы вымушаны падпарадкоўвацца гэтаму зададзенаму рытму ў гэтай прасторы, з якой вырвацца немагчыма, і гэта спрыяла больш дакладнаму раскрыццю іх розных характараў. Сама Зінаіда Браварская сыграла ў спектаклі «Яны любілі яго» ролю Матухны.

І вось — самая апошняя акцёрская работа Зінаіды Іванаўны Браварскай — роля Сары Бернар у спектаклі «Смех лангусты» англійскага драматурга Джона Марэла. Прэм'ера спектакля, пастаўленага маладым рэжысёрам Генадзем Давыдзькам, адбылася зусім нядаўна, яшчэ зусім мала гледачоў паспела яго ўбачыць. Але першыя водгукі, у тым ліку і ў прэсе, сведчаць аб тым, што гэта — значная работа актрысы (яе роля цэнтральная, у дуэце з ёй працуе спецыяльна запрошаны на ролю Піту, сакратара Сары Бернар, заслужаны артыст рэспублікі Віктар Лебедзеў). Зінаіда Браварская па-свойму асэнсоўвае эпізоды з вельмі складанага і нялёгкага жыцця сусветна вядомай актрысы, узнімаючыся да агульначалавечых абагульненняў. Лёс Сары Бернар у трактоўцы Браварскай набывае шэкспіраўскі матыў адвечнай трагедыйнасці жыцця. Выяўляючы ўвесь шматфарбны спектр эмацыянальных адценняў персанажа, змены яго настрою і пачуццяў Браварская вельмі цікава і нечакана злучае з вопытам сваёй гераіні свой сцэнічны вопыт, і ў трагічны кантэкст урываецца светлы матыў звычайнай чалавечай надзеі ўбачыць пасля цёмнай жудаснай ночы сонечнае святло, сонца, якое абавязкова зноў узыдзе, за якім бы морам яно не схавалася.

Дык што ж урэшце азначае такая прафесія: акцёр? Што гэта — рамяство, прафесія, якой можна навучыцца, талент, які дадзены ад Бога? Місія? Прызванне? І ўвогуле, хіба можна зразумець, дзе скончылася ў артыста праца і пачалося іншае жыццё? А хіба гэта не жыццёвы подзвіг — нягледзячы на самыя бязлітасныя ўдары лёсу захаваць сапраўдную маладосць духу, няўрымслівасць, творчы неспакой і энергію? І таму я адмоўлюся ад традыцыйна - банальных слоў: «Жадаем новых творчых поспехаў і гэтак далей», бо ўсё было, як я і меркаваў. Пасля свайго юбілею, у першы ж дзень, калі артысты сабраліся ў тэатры пасля адпачынку, Зінаіда Іванаўна Браварская прыйшла і сказала: «Вось, я знайшла цікавую п'есу, давайце яе ставіць». А што яна канкрэтна прапанавала — пакуль што сакрэт. Да пары, да часу.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

---

тарыяльна ў сваёй пошукавай працы. У межах рэспублікі мы прыкладна ведаем, ці здагадваемся, дзе, у якім кірунку весці гэты пошук. А за межамі рэспублікі або за межамі краіны? Пакуль такой магчымасці няма. А вядома ж, што беларусы маюць свае суполкі ў розных краінах свету, там ёсць і мастацкія калектывы, жывуць і развіваюцца нацыянальныя традыцыі ў галіне музыкі і тэатра. Пра гэта, дарэчы, неаднойчы інфармаваў і «ЛіМ». Але ўсё гэта—веданне на ўзроўні інфармацыі, а не на ўзроўні матэрыяльна-рэчавых доказаў, што неабходна для музея. Вядома, напрыклад, што ў Празе ёсць раяль сусветна вядомага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага: якое гэта было б упрыгожанне экспазіцыі! У набыцці гэтай рэліквіі магло б нам дапамагчы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, ды не толькі ў гэтым.

Колькі слоў пра задуму структуры экспазіцыі, вобразнае бачанне будучага музея, ці, як прынята казаць, пра яго канцэпцыю. Падыход да гэтай справы неадназначны. Некаторыя лічаць, што перш чым фарміраваць агульны эстэтычна-вобразны прынцып экспазіцыі, трэба мець матэрыяльную аснову, пэўны набор экспанатаў, каб на іх базе вызначыць вузлавыя акцэнты, прынцып размяшчэння. Ёсць і іншая думка—стварыць мастацкае ўяўленне, вобраз-ідэю і ў адпаведнасці з ёй весці пошукавую дзейнасць. Мне асабіста бліжэй першы падыход, але не выключаю магчымасць іншых.

У гэтай сувязі выкажу сваё меркаванне. Каб пазбегнуць стандартнасці, традыцыйнасці ў горшым сэнсе слова, варта, не парушаючы гісторыка-хаваналагічнай паслядоўнасці, вылучыць у гэтым працэсе тэму адраджэння беларускай музычнай і тэатральнай культуры на ўсіх этапах. Так ужо склалася наша гісторыя, што на працягу стагоддзяў два супрацьлеглыя напрамкі — знішчэнне, прыгнёт і ўзнаўленне, адраджэнне нацыянальных мастацкіх каштоўнасцяў вызначалі творчую дзейнасць народа ў яго імкненні «людзьмі звацца». Неабходна паказаць увачавідкі, праз жывыя, канкрэтныя доказы пастаяннае імкненне перадавых людзей нашага краю «заняць свой пачэсны пасад між народамі».

Не лічу сваё меркаванне бясспрэчным і таму заклікаю зацікаўленых чытачоў «ЛіМа» выказаць і свае думкі.

І яшчэ адно. Справу мы пачынаем важную і нялёгкую, хаця і са значным спазненнем (але гэта ўжо наша агульнавядомая хвароба). Каб вырашыць складаныя задачы па вышуку і збору музейных матэрыялаў, нам неабходны саўдзел і дапамога ўсіх, хто непасрэдна ці ўскосна мае дачыненне да роднай тэатральнай і музычнай культуры, хто зацікаўлены ў яе захавальнасці і служэнні эстэтычнаму і наогул духоўнаму выхаванню маладога пакалення: выкажыце свае меркаванні па закранутых пытаннях, звяртайцеся да нас з прапановамі! Толькі разам, талакою мы зможам падняць, зрушыць, накіраваць у патрэбнае рэчышча нігілізаваную свядомасць некаторых суайчыннікаў, даць ім наглядныя доказы багацця нацыянальнай культуры.

Мы на парозе, на пачатку шляху, а ён, гэты шлях, будзе больш плённым тады, калі па ім пойдзе як мага больш аднадумцаў.

**А. ЛАБОВІЧ,**
**намеснік дырэктара рабочай групы па стварэнні Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.**

---

ХАРЭАГРАФІЯ

# «Белыя росы» супраць камерцыі

Цяжкія часы насталі для танцавальных калектываў, якія не жадаюць камерцыялізавацца любой цаной. Некаторыя з іх ставяць праграмы, якія патрапляюць густам пакупніка, шукаюць кантакты з бара-рэстараннай сферай, імкнуцца ў што б там ні было выехаць за мяжу.

Гродзенскі ансамбль танца «Белыя росы», канцэрт якога нядаўна адбыўся ў Мінску, не жадае паступацца прынцыпамі і хоча захаваць сваё аблічча, свой рэпертуар, сваё бачанне беларускага танца.

Строгасць формы, чысціня выканання, жыццярадасная няўрымслівасць вызначае выканаўчае майстэрства артыстаў ансамбля, многія з якіх зусім нядаўна сталі прафесіяналамі. Калектыў «Белыя росы» быў арганізаваны балетмайстрам Я. А. Штопам на базе вядомага народнага ансамбля «Раніца», і натуральна, што лепшыя танцоры з самадзейнага ансамбля перайшлі ў яго і атрымалі новы статус. Харэограф захаваў і лепшыя са сваіх старых пастановак, такія, як, напрыклад, «Каханачка», надаўшы ім большы маштаб і выразнасць.

Новай і вельмі каштоўнай, на мой погляд, якасцю ансамбля сталася імкненне яго кіраўніка стварыць той цесны сінтэз харэаграфіі, інструментальнай музыкі і песні, які так характэрны для сапраўднага фальклору. Задача гэтая досыць складаная ў рэалізацыі, бо тут патрабуюцца сінтэтычныя акцёры, здольныя адначасова спяваць, танцаваць і граць на якім-небудзь з музычных інструментаў. І такія людзі знаходзяцца. Некаторыя з іх, як, напрыклад, педагог-балетмайстар А. Токараў, іграюць нават на некалькіх народных інструментах. Не дзіўна, што гэта надае калектыву асаблівую адметнасць. Дадатковыя прыемныя фарбы — разыгрыванне асобных момантаў, мяккі гумар. Добра глядзяцца ў праграме ансамбля рассыпухі-полькі, частушкі-вязанкі, ігравы вакальна-харэаграфічны нумар «Хадзіў Ясь па полю». Непаўторны каларыт мог бы быць яшчэ больш прыкметным, калі б калектыў больш увасабляў рэгіянальныя асаблівасці харэаграфічнага фальклору Заходняй Беларусі, стварыў бы пастаноўкі на матэрыяле багатай танцавальнай творчасці сваёй роднай Гродзеншчыны.

На жаль, канцэрты гэтага вартаснага з усіх бакоў танцавальнага калектыву ўбачыць значна меншая колькасць гледачоў, чым хацелася б. Попыт на мастацтва «Белых рос» пакуль яўна недастатковы. Гастролі па Саюзе цяпер таксама праблематычныя, як і сам Саюз, паездкі за мяжу практычна нікім цяпер не арганізуюцца. Да таго ж, цяперашняе фінансавае становішча калектыву робіць яго гастролі нерэнтабельнымі: выязджаючы з канцэртамі, ён больш выдаткоўвае, чым атрымлівае. І гэта парадаксальная сітуацыя, калі ансамблям больш выгадна сядзець на месцы, чым выязджаць з канцэртамі, датычыць практычна ўсіх прафесійных харэаграфічных калектываў краіны. Так што выратаванне тапельцаў аказваецца справай рук саміх тапельцаў. Гродзенскі ансамбль шукае выйсця з гэтага становішча ў канцэртаванні па вобласці, у інтэнсіўнай працы па выхаванні і навучанні юных танцораў. Пры «Белых росах» існуе цэлая школа харэаграфічнай адукацыі дзяцей і, акрамя падрыхтоўкі змены для калектыву, яна робіць нямала па эстэтычным выхаванні маладога пакалення.

Ды, вядома, ансамбль здольны на значна большае. Ён мае цудоўна абсталяванае і разумна пабудаванае памяшканне, уласны аўтобус (дарэчы, усёй гэтай гаспадарцы, дбайна сабранай, арганізаванай, набытай Я. Штопам, можа пазайздросціць любы калектыў рэспублікі). «Белыя росы» — гэта грунтоўны рэпертуар, прафесіяналы-выканаўцы, разумны кіраўнік.

Будзем спадзявацца, што, захаваўшы і прымножыўшы свае набыткі ды вартасці, «Белыя росы» дажывуць да лепшых часоў, а разам з імі і мы, гледачы.

**Юлія ЧУРКО.**

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# СІЛУЭТЫ СТАРОГА МІНСКА

СІЛУЭТЫ
СТАРОГА
МІНСКА

«Драўляны дом, штыкетнік вакол яго, у штыкетніку брама або веснічкі, кветкі ў агародчыку... Не так ужо шмат засталося астраўкоў даўніны сярод мора сучасных будынкаў архітэктуры. Ці не таму мы падчас не адчуваем свае карані, тыя ніці, якія нябачна звязваюць нас з дзядамі, прадзедамі, людзьмі цудоўнага краю лясоў, палёў, блакітных азёр?» —на такой лірычнай і разам з тым трывожна-шчымлівай ноце пачынаецца кніга Аляксандра Лакоткі «Сілуэты старога Мінска», выпушчаная выдавецтвам «Полымя» ў серыі «Помнікі беларускага дойлідства».

Аўтар запрашае чытача прайсціся вуліцамі старога Мінска. І таго, што даўно схаваны пад пластамі зямлі, стаў гісторыяй. І Мінска, які, зацiснуты з усіх бакоў новымі забудовамі, сіліцца выжыць, застацца ў сваім першародным, нерушавым выглядзе.

Развагі аб гістарычным Мінску («У горадзе Менеска», «У старажытным дзядзінцы», «У вакольным горадзе», «Далейшае развіццё», «Мінск у XIX стагоддзі») падмацаваны шматлікімі схемамі, картамі раскопак, выявамі ранейшых будынкаў, рэканструяваных даследчыкамі на ватманах. Гаворка ж аб Мінску канца мінулага стагоддзя і сённяшняга дня («Па вуліцах старых прадмесцяў» і «Погляду нашчадкаў») ілюстравана дзесяткамі здымкаў, якія паказваюць, як па-майстэрску ўмелі будаваць у горадзе, наколькі драўляная архітэктура дазваляе спалучаць у сабе смеласць задумы і плённасць яе мастакоўскага вырашэння. Ажываюць такія блізкія сэрцу карэнных мінчан і не заўсёды, на жаль, зразумелыя людзям прышлым назвы — Ракаўскае прадмесце і Татарская Слабада, Старажоўка і Пярэспа, Уборні, Серабранка, Добрая Мысль, Грушаўка... Пра кожны з гэтых раёнаў падрабязна расказваецца ў кнізе.

А. Лакотка прыводзіць цэлы спіс (дваццаць сем назваў) жылых дамоў, якія неабходна ўзяць у Мінску пад ахову дзяржавы. У гэтым спісе як помнікі архітэктуры цалкам называюцца Беларуская, Надзеждзінская і Хмялеўская вуліцы, Паўночны завулак. Тут, на думку аўтара, можна размясціць культурна-асветніцкія ўстановы, зрабіць гасцінічна-турысцкія гарадкі.

Заслугоўвае ўвагі і пазіцыя выдавецтва, якое парупілася, каб кніга выйшла на беларускай мове (перакладчык П. Сушко). Вырашыць матэрыяльныя цяжкасці, звязаныя з выданнем кнігі, дапамог Беларускі фонд культуры.

**В. ЗУШЧЫК.**

ЛІТКУР'ЕР

## Трохтомнік Багдановіча

Усе кнігарні рэспубліканскага аб'яднання «Белкніга», а таксама магазіны Белкаапсаюза, што гандлююць кніжнай прадукцыяй, распачалі падпіску на поўны Збор твораў Максіма Багдановіча ў трох тамах. Гэтае выданне спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры, падрыхтаванае супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Беларускай акадэміі навук сумесна з вядучымі літаратуразнаўцамі рэспублікі, акадэмічнае. У адрозненне ад папярэдняга Збору ў двух тамах, які выйшаў у 1968 годзе, яно з разгорнутым каментарыем, зверанае па першакрыніцах. Упершыню ўключаны вершы, нататкі, рэцэнзіі і агляды М. Багдановіча, знойдзеныя ў архівах Яраслаўля, Вільні, Мінска, а таксама ў тагачасным перыядычным друку.

У першы том увойдуць вершы, паэмы, пераклады, наследаванні і чарнавыя накіды асобных твораў. Апавяданні, нарысы, артыкулы, рэцэнзіі складуць другі том. У трэцім томе будзе апублікавана публіцыстыка, эпісталярная спадчына, афарызмы, падарункавыя надпісы і творы, якія прыпісваюцца М. Багдановічу.

Збор твораў выдавецтва «Навука і тэхніка» плануе ажыццявіць у 1991—1992 гадах.

## І дзіцячыя пісьменнікі — незалежныя

У Маскве прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Незалежнай самакіруемай асацыяцыі дзіцячых пісьменнікаў краіны. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх былых саюзных рэспублік за выключэннем Прыбалтыкі і Грузіі, у тым ліку ад Беларусі — Артур Вольскі і Уладзімір Ліпскі. Абмяркоўваліся надзённыя праблемы выжывання літаратуры для дзяцей ва ўмовах рынку, калі яна па сутнасці стала нікому не патрэбна, а рукапісы кніг гадамі ляжаць у выдавецтвах.

Ганаровым старшынёй асацыяцыі выбраны Сяргей Міхалкоў, прэзідэнтам — маскоўскі паэт Раман Сеф.

## Творчы семінар

з сябрамі літаратурнага аб'яднання «Крыніцы», што працуе пры штотыднёвіку «Чырвоная змена», у панядзелак правёў крытык і літаратуразнавец Міхась Тычына. Маладым аўтарам было цікава (і карысна) пачуць аўтарытэтнае слова пра сучасны стан беларускай літаратуры, яе намаганні ў справе нацыянальнага Адраджэння, тыя задачы, якія стаяць сёння перад творчай зменай.

## Шлях «Дыягенаў» з Гародні

Зусім нядаўна ў Гродне выйшаў з друку калектыўны зборнік маладых паэтаў пад назовам «Шлях». Аўтары — сябры верш-гурта «Дыяген» і літаб'яднання «Наднёманскія галасы», што працуе пры Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. У прыгожа выдадзенай кніжачцы спалучаюцца творы кардынальна супрацьлеглай накіраванасці, тэматыкі і ўзроўню. Аднак гэткая эклектычнасць больш-менш дакладна адлюстроўвае стракатасць маладой літаратуры Гродзеншчыны. Акрамя практыкаванняў сціплых пачаткоўцаў, у зборніку прадстаўлены вершы Юрася Пацюпы, Андрэя Пяткевіча, Едруся Мазько, Юры Карэйвы — аўтараў ужо вядомых чытачу па публікацыях у рэспубліканскіх выданнях.

Дарэчы, рыхтуецца да друку наступная кніжачка — альманах «Кола». Хутчэй за ўсё, «Кола» ўбачыць свет на пачатку наступнага года.

**Юры ГУМЯНЮК.**

ВІНШУЕМ!

● **Адна са старэйшых педагогаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ірына Цвятаева выхавала нямала таленавітых піяністаў. За заслугі ў развіцці беларускага музычнага мастацтва прафесару І. ЦВЯТАЕВАЙ нададзена званне заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.**

● **Старэйшыне беларускай паэзіі Алесю ЗВОНАКУ прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь. Тым самым адзначаны яго плённы ўклад у развіццё беларускай літаратуры.**

МУЗЫКА

## З адраджэннем, капэла!

Людна і ўрачыста было на канцэртах фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». Напярэдадні гэтай падзеі, два тыдні таму, мы змясцілі гутарку з ініцыятарам фестывалю і адным з актыўных яго арганізатараў Віктарам Скарабагатавым. Многае з таго, пра што было сказана са старонак «ЛіМа», ён уключыў у свой даклад, з якім выступіў 28 кастрычніка на пленуме праўлення Саюза музычных дзеячаў Беларусі. Гаворку аб праблемах адраджэння беларускай капэлы, якое ўжо, безумоўна, пачалося — дзякуючы фестывалю, падтрымалі ўдзельнікі і грунтоўнай гутаркі за «круглым сталом», наладжанай Саюзам тэатральных дзеячаў, 29 кастрычніка. Пазаўчора фестываль завяршыўся канцэртным выкананнем оперы Р. Вардоцкага «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас»... А больш падрабязна — у нашых наступных нумарах.

## У Мюнхен — да новых перамог!

Не заехаўшы нават дадому, стажор ДАВТа Беларусі Марат Грыгорчык, які толькі-толькі завяршыў творчае спаборніцтва на конкурсе імя М. Глінкі ў Алма-Аце, выправіўся на конкурс вакалістаў у Мюнхен. У маладога беларускага спевака ёсць падставы спадзявацца на добрыя вынікі: нядаўні выпускнік БДК, ён выступае ў тэатры ўжо нароўні з вядучымі салістамі, мае ў рэпертуары прэстыжныя тэнаровыя партыі ў спектаклях «Яўгеній Анегін», «Чарадзейная флейта», «Травіята». А ў Алма-Аце, на глінкаўскім конкурсе, дзе паводле няпісаных законаў вядучыя месцы ці не заўжды займалі ды займаюць масквічы, М. Грыгорчык стаў лаўрэатам другой прэміі. Гэта — перамога!

## Бірабіджан далёка...

Але Камерны яўрэйскі музычны тэатр пераадолеў адлегласць ад Бірабіджана да Мінска. Гастролі пачынаюцца. Вось толькі чаму нашы грамадзяне мастацтва гасцей успрымаюць як экзотыку? Быццам забыліся, што ў даваенны час кампазітары Беларусі апрацоўвалі яўрэйскі музычны фальклор, што ў нас быў адметны яўрэйскі тэатр, што Беларускае радыё рэгулярна вяшчала і на ідзіш... Дзеячы культуры Рэспублікі Беларусь: няўжо няма прычыны задумацца?

НАШЫ ГОСЦІ

## Радыё «Свабода» ў «ЛіМе»



**На мінулым тыдні рэдакцыю наведала супрацоўніца беларускай службы радыё «Свабода» сп. Ларыса Верас.**

**Намесніка дырэктара беларускай службы цікавілі разнастайныя пытанні, найперш — пасоўванне рэспублікі па шляху незалежнасці, адраджэнне самасвядомасці, асветы, мовы, гістарычнай спадчыны.**

**Госця прыемна ўразіла дасведчанасцю ў нашых справах, веданнем праблем рэспублікі.**

ВЫСТАЎКІ

## 80 эстампаў Генры Мура

Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі. 21 кастрычніка тут адкрылася выстава гравюр і літаграфій Генры Мура, творы за перыяд з 1949 па 1984 год. Выстава ўжо экспанавалася ў Санкт-Пецярбурзе (тады яшчэ ў Ленінградзе) і ў Маскве. Напачатку ў экспазіцыі былі і скульптуры славутага майстра, але з пачаткам путча арганізатары вырашылі не рызыкаваць унікальнымі творамі — скульптура ў адрозненне ад гравюр і літаграфій існуе ў адным экземпляры — і адправілі іх з Ленінграда ў Фінляндыю. Такім чынам, за тое, што гэтым разам менчукі не пабачылі, трэба дзякаваць ДКНС.

Усяго Генры Мурам створана больш за 700 эстампаў, 80 з іх прадстаўлены на гэтай выставе. Іх пры жаданні можна разглядаць і як падрыхтоўчы матэрыял да скульптур, і як абсалютна самастойны раздзел творчасці майстра. Усё залежыць ад таго, з якімі крытэрыямі да гэтай справы падыходзіць. Аднак, несумненна, што зварот да розных графічных тэхнік — гравюра, афорт, акватынта, літаграфія і гэтак далей не быў для славутага скульптара выпадковай з'явай.

Выставы такога характару для нашага горада пакуль што рэдкасць, раней яны ўвогуле не ладзіліся нідзе, акрамя Масквы і Ленінграда, часам у Кіеве. Гэта цудоўны падарунак для менскіх аматараў мастацтва.

ТЭАТР

## Вучыцца — не перавучвацца

**Акцёрская студыя створана пры Гродзенскім абласным драматычным тэатры. Ажыццяўляецца набор прэтэндэнтаў на атрыманне гэтай прафесіі; адна з першых умоў — валоданне беларускай мовай. Куратар студыі, мастацкі кіраўнік тэатра М. Разцоў лічыць, што толькі такім — натуральным — шляхам можна падрыхтаваць людзей, якія ажыццявілі б у будучыні пераход тэатра да працы на дзяржаўнай мове.**

**А. МІХАЛЬЦОВА.**

## Тюгаўскія падарожжы

**«Цудоўным падарожжам у ноч» пачалі 23 кастрычніка чарговы сезон беларускія тюгаўцы: спектакль паводле казкі Джані Радары «Падарожжа Блакітнай стралы» ажыццявілі рэжысёр А. Багамолаў, мастак Л. Герлаван, кампазітар — С. Картэс, акцёры В. Паўлюць, С. Дзераўцоў, А. Шабад, А. Курловіч, Л. Улашчанка, Л. Горцава ..**

**Напярэдадні адкрыцця адбыўся традыцыйны тэатральны капуснік, які вёў загадчык літчасткі тэатра У. Граўцоў, а рыхтаваў акцёр Ю. Вута разам з вучнямі мінскіх школ №№ 190, 196, 176, 80 і 145. Праграма адкрывалася віншаваннем першага ў гісторыі ТЮГа народнага артыста Рэспублікі Беларусь — М. Пятрова, які распавёў шаноўнаму спадарству пра сваё акцёрскае падарожжа працягласцю ў шмат гадоў...**

КІНО

## Без дабрадзеяў і міністраў?

На працягу 1991—1993 гадоў кінастудыя «Беларусьфільм» плануе экранізаваць п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя»; аповесць Я. Пархуты «Адынец» (пра лёс чалавека, які сорак гадоў хаваўся ў лесе), зняць фільм пра Кастуся Каліноўскага. Тэмы Чарнобыля кранецца фільм паводле В. Казько «Чорны бусел». Запланаваны фільмы «Род Сворага» (пра змаганне язычніцтва супраць хрысціянства на Беларусі на пачатку семнаццатага стагоддзя); «Заганіце звера ў клетку» — аб падзеях у Заходняй Беларусі ў 20—40-я гады; «Маленькая балерына» паводле У. Караткевіча; «Заклад» паводле А. Чэхава; а таксама «Летнія размовы зімнімі вечарамі» па сцэнарыі Г. Шпалікава, аднаго з найцікавейшых сцэнарыстаў савецкага кіно 60-х гадоў, які трагічна скончыў жыццё семнаццаць гадоў таму.

На тое, каб падтрымаць нацыянальнае кіно, «Беларусьфільму» спатрэбіцца ў наступным годзе ад дваццаці да трыццаці мільёнаў рублёў (пры ўмове кошту мастацкага фільма не болей за пяць мільёнаў). Ці справіцца з выдаткамі кінастудыя без дапамогі дабрадзеяў або без фінансавай падтрымкі Савета Міністраў рэспублікі?

**Ягор КОНЕЎ.**

НОВЫЯ ВЫДАННІ

## «Пралеска» зацвіла... восенню

**Нарэшце прыйшоў да чытача першы нумар штомесячнага навукова-метадычнага ілюстраванага часопіса «Пралеска» («Дашкольнае выхаванне»), заснавальнікам якога з'яўляецца Міністэрства народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пазначаны ён жніўнем, але ў спазненні віны рэдакцыі няма: проста не спраўляецца друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку» друкаваць беларускія выданні.**

**Што тычыцца зместу, дык, думаецца, новае выданне прыйдзецца даспадобы ўсім, хто мае дачыненне да выхавання падрастаючага пакалення. Настаўнікам і выхавацелям дзіцячых садкоў і ясляў, бацькам, дзядулям і бабулям. І, канечне, самім дзеткам, бо ёсць у «Пралесцы» і творы, адрасаваныя маленькім.**

ЗНАЁМСТВЫ



24 кастрычніка ў Доме літаратара адбылася прэзентацыя газеты «Культура», заснаванай Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

Выступілі рэдактар новага выдання, пісьменніца В. Іпатава, міністр культуры Я. Вайтовіч, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Прагучалі словы падтрымкі калектыву «Культуры», зычанні поспехаў.

АДРАДЖЭННЕ

## Канферэнцыя ў Гародні

З 22 па 25 кастрычніка ў Гродне праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі», у якой бралі ўдзел гісторыкі, філосафы, этнолагі, палітыкі з Беларусі, Летувы, Украіны, Расіі, Польшчы — усяго каля 100 даследчыкаў.

Арганізавалі канферэнцыю Гродзенскае абласное аддзяленне БФК, кафедра агульнай гісторыі Гродзенскага універсітэта імя Я. Купалы, Гродзенская абласная краязнаўчая асацыяцыя і выканком гарсавета. Трэба адзначыць, што канферэнцыя ў Гродне сабралася невыпадкова: апошнім часам гродзенскія гісторыкі, краязнаўцы актыўна адраджаюць гістарычную спадчыну. Так, намаганнямі краязнаўчай асацыяцыі вернута імя Т. Нарбута, адбылося ўшанаванне памяці Вітаўта Вялікага і інш. Цяпер жа ў Гродна з'ехаліся даследчыкі гісторыі ВКЛ.

Для навукоўцаў кожная нагода дзеля сумоўя — ужо падзея. Гродзенская канферэнцыя, апроч таго, вызначалася і арганізацыйна: напярэдадні ў 3-х тамах былі выдадзены тэксты дакладаў і паведамленняў на канферэнцыі. Зборнік пад назвай «Наш радавод» (700 асобнікаў) хутка, відаць, стане бібліяграфічнай рэдкасцю.

Цешыць, што тэматыка гродзенскай канферэнцыі будзе мець працяг. Як паведаміў на адкрыцці канферэнцыі дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс, у 1992 годзе мае адбыцца канферэнцыя ў Вільні — па беларуска-летувіскіх дачыненнях, а ў 1993 годзе спланавана канферэнцыя «Рым-IV» у Пінску.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# СУМНА, СПАДАРЫ!

Дазвольце дадаць сваё асабістае назіранне аб цяжнім шляху вяртання беларускай мовы.

Пачалася падпісная кампанія. І вось недзе ў пачатку верасня (ці апошнія дні жніўня гэта былі — дакладна ўжо не памятаю) сустракаю ў «Добрым вечары» (газеце дэмакратычнай арыентацыі) надрукаваны *бланк абанемента на падпіску* — на расейскай мове. Ну, разважаю, Беларусь ужо суверэнная, але толькі-толькі, не паспела рэдакцыя адрэагаваць, здараецца. Даслаў у рэдакцыю ліст з заўвагай. Чакаю. Недзе праз тыдзень — зноў на расейскай мове надрукаваны «Абанемент». Цяпер ужо ў «Народнай газеце». І ў яе рэдакцыю напісаў: маўляў, як жа так? Газета — Вярхоўнага Савета, існуе Закон аб мовах, зноў жа — суверэнітэт. Сорамна, спадары! Зноў чакаю. Цішыня. Ні адна, ні другая газета аніяк не растлумачылі свой учынак — ні публічна, ні ў асабістым лісце да мяне.

Але гэта не ўсё. Атрымліваю «Наша слова» *(орган ТБМ) — і зноў тое самае:* уся газета на беларускай мове — ...а абанемент на падпіску — на расейскай (?!) І гэтая газета таксама не адрэагавала на маю пісьмовую заўвагу ў яе адрас.

Сумна, спадары.

А. ШПАКОЎСКІ.

г. Мінск.

# А КАЛІ КОШТАМ ЧЫТАЧОЎ?

**Прачытаў ліст Ю. А. Якімовіча («ЛіМ» № 32) «Звяртаюся па дапамогу», а потым допіс М. Бохана, вучня 8 класа са Стаўбцоўскага раёна («ЛіМ» № 38) «Не пакінем на волю лёсу», і захацеў выказаць некаторыя свае меркаванні.**

**Сэнс маёй прапановы заключаецца ў тым, што трэба паспрабаваць выдаць гэтую НЕАБХОДНУЮ для краязнаўцаў, гісторыкаў і аматараў даўніны кнігу за кошт... будучых чытачоў. Мяркую, што мала знойдзецца такіх ахвяраванцаў, як Мікалай Бохан, але калі загадзя чытачы будуць упэўнены, што іхнія грошы пойдуць на выданне *кнігі і* гэтую *кнігу ім* абавязкова вышлюць, то такіх ахвярадаўцаў, спадзяюся, знойдзецца шмат. Для гэтага, я думаю, неабходна адкрыць спецыяльны рахунак у банку і весці *спіс людзей, якія выслалі грошы.* Спадар Якімовіч павінен рашыць, якую суму грошай трэба пералічваць на гэты рахунак, якая ўключала б кошт кнігі і будучы кошт перасылкі. Для гэтага Юрый Аляксандравіч павінен дадаткова звярнуцца праз прэсу, што ён мае намер выдаць кнігу за кошт чытачоў і надрукаваць сваю прапанову не толькі ў «ЛіМе», але ў «Віцебскім рабочым», «Весніку Глыбоччыны», «Звяздзе», «Советской Белоруссии» і г. д.**

**Магчыма, што гэтыя грашовыя пераказы не пакрыюць увесь наклад, бо колькі асобнікаў кнігі будзе выдадзена — столькі павінна й быць заказчыкаў, але й тут *нешта можна* «прыдумаць», напрыклад, папрасіць дапамогі ў якога-небудзь прадпрыемства, пашукаць іншага фундатара.**

**Уладзімір СКРАБАТУН.**

г. Вентспілс.

# ІМЯ НЕ ДАПАМАГАЛА

**Нядаўна прачытаў на 16 старонцы пад рубрыкай «Доля праўды» («ЛіМ» № 36) пра смерць лектара Ніны Мікалаеўны, якая да 1989 года звалася Леніна Мікалаеўна, а да 1957 года — Сталіна Мікалаеўна.**

**А маё імя Віля (ВІЛ) сапраўды звязана з імем У. І. Леніна. Я нарадзіўся ў 1933 годзе ў Мінску 22 студзеня — раней гэта *быў нерабочы ленінскі дзень.* Хоць пры нараджэнні разам з рэкамендаваным для народжаных у гэты дзень хлопчыкаў імем ВІЛ атрымаў ад раддома ў прыз два дзіцячыя канверты, лёс пакуль не песціць мяне, а імя нават пры гаротным становішчы не памагала мне дамагчыся справядлівасці. Зрэшты, поўнае імя ўзяў сабе Вільям.**

Вільям **АСТРЫНСКІ.**

г. Мінск.

# НІХТО, АКРАМЯ НАС САМІХ

***Мяркую, што няма патрэбы** пераконваць* **некага ў тым, што «ЛіМ» у яго сучасным стане — адно з лепшых беларускамоўных выданняў. На сваіх старонках штотыднёвік адлюстроўвае не толькі літаратурна-мастацкія з'явы, але і ўваскрашае ў нашай памяці багацце шматвяковай гісторыі Беларусі, абмяркоўвае сучасныя вострыя праблемы беларускага Адраджэння. Ён умацоўвае духоўныя сілы беларусаў, будзіць нашу нацыянальную свядомасць, растапляе лёд нацыянальнага нігілізму. «ЛіМ» сёння патрэбен не толькі творчай інтэлігенцыі, але і кожнаму беларусу.**

**Але далёка не да ўсіх беларусаў даходзіць голас *«ЛіМа». І пакуль гэта будзе* прадаўжацца, марна будуць прападаць многія намаганні. Дык хто ж давядзе гэты голас да ўсіх? Ніхто, акрамя нас саміх. Я заклікаю ўсіх чытачоў заняцца актыўным распаўсюджаннем падпіскі на «ЛіМ» сярод свайго акружэння — моладзі і сталых. Няхай у 1992 годзе «ЛіМ» стане здабыткам беларускага народа! Няхай кожны далучыць да нашага кола аднаго ці некалькі чытачоў — і ён паспрыяе святой справе беларускага Адраджэння!**

**Л. КУСТАЧ,**
**чытач «ЛіМа», настаўнік.**

п. Умба Мурманскай вобл.

# СМАЛЕНСКІЯ СЦЕЖКІ «ВЫБРАНЕЦКІХ ШЫХТОЎ»

Наш суразмоўца расказвае, што скончыў чатыры класы беларускай *школы* ў вёсцы Неўзучча. З пятага класа школу ўжо перавялі на расійскую мову навучання. Школы пераводзілі на расійскую *мову ў 1935—36 навучальным годзе.* Супастаўляем архіўныя весткі аб скліканні вясной 1934 года спецыяльнай камісіі з супрацоўнікаў Смаленскага аблана па *даследаванні беларускіх школ з мэтай* вывучэння «целесообразности их существования». Ці няма сувязі паміж працай камісіі ды пераводам школ на расійскую *мову навучання?*

Распытваем пра атмасферу ў школе, пра настаўнікаў, пра вучэбны працэс (Пётр Андрэевіч — былы настаўнік). Высвятляецца, што адносіны людзей да беларускай школы былі нармальныя (насуперак шматлікім архіўным дакументам) і спакойныя, вучыліся па беларускіх падручніках, па-беларуску выкладалася толькі частка прадметаў. Чаму зліквідавалі беларускую школу, Пётр Андрэевіч не ведае, як, дарэчы, не ведаў ніхто з сялян, бо ў іх не пыталіся.

Пытаемся ў нашага субяседніка, кім жа ён сябе лічыць па нацыянальнасці? Адказвае, што па пашпарце — рускі. Даведаліся мы, што і жыхарам былое вёскі Неўзучча ў пашпарты пісалі «рускія»... «А Беларусія там...» — паказвае Пётр Андрэевіч нам рукой у бок лесу.

І іншыя сустрэчы і размовы пацвердзілі, што менавіта адміністрацыйная мяжа вызначае ў заходняй Смаленшчыне і мяжу нацыянальную. Пачатак такога размежавання сягае ў 20—30-я гады нашага стагоддзя.

Пётр Андрэевіч правёў нас да бабулі, якой ужо за 90 год. Але размовы не адбылося. «Ці мне ўжо гаварыць, калі паміраць трэба? Ня буду гаварыць і ўсё...» Шкада. Бабулька вельмі жвавая і, як кажуць людзі, «яшчэ пра пана помніць».

Заходзім у вясковую бібліятэку. Бібліятэкарка ведае ад маці шмат старых песень. Гэта нас і цікавіць. Лахцеева Марыя Васільеўна (1939 г. н.) спявае нам шмат сапраўды аўтэнтычных песень. Усё старанна запісваем на магнітафон. Яна ж нам раіць паехаць у Одрына да яе сясцёр, якія, па яе словах, маглі б наспяваць значна болей. Чуем, што Марыя Васільеўна паспрабуе гэтым летам наладзіць у Магільні Купалле, якое тут ужо моладзь не ведае і не святкуе. Успамінае сваё юнацтва, калі яшчэ і Купалле было, і песні купальскія, пятроўскія, калядныя ды іншыя...

Пётр Андрэевіч успамінае, што ў 30-х існавала беларуская школа і ў вёсцы Тур за тры-чатыры кіламетры ад Магільна. Зараз яе няма. Цікавая дэталь: жыхароў суседняй вёскі Пяскі ён, смеючыся, называе «маскалямі». Тлумачыць, што там жывуць пераважна людзі са стараверaў, якія сюды перасяліліся з Расіі. Мясцовае, аўтэнтычнае насельніцтва гэтак называла тут перасяленцаў-стараверaў.

Час бяжыць, і ў Одрына мы ўжо не паспяваем. Мусім вяртацца да месца сустрэчы з другой часткай групы.

**4 мая**

## Смаленск

Апошні дзень нашае вандроўкі. Надвор'е нарэшце нам спрыяе...

Смаленск мае даўнюю гісторыю. На *жаль, найменей асветлены перыяд, які* ўмоўна можна было б назваць «беларускім», — XIV—XVI стагоддзі. Болей пашэнціла ранейшаму перыяду, захаваліся *некаторыя архітэктурныя помнікі.* Вялікая колькасць кніжак пра Смаленск таксама мала прасвятляе чытачу паралель Смаленск—Беларусь, бо напісана пера*важна з пазіцый расійскай вялікадзяржаўнай* гістарыяграфіі. У 20-я гады паміж Смаленшчынай і БССР паступова наладжваліся плённыя навуковыя і культурныя кантакты, *але ўсё па вядомых пры*чынах перарвалася. Таму 20-я і 30-я гады забыты не меней за ранейшыя гады і стагоддзі, хоць і жывыя яшчэ некаторыя сведкі той эпохі.

Пра Смаленск можна гаварыць шмат, *але мы абмяжуемся толькі беларускімі* мясцінамі горада, тым, што звязана з Беларуссю.

Побач з вакзалам стаіць царква Пятра і Паўла. Датуецца XII стагоддзем. Добра адрэстаўраваная. Гэтым часам датуецца і яшчэ адна смаленская царква — Міхаіла Архангела, альбо Свірская. Але ўсё-такі сённяшні Смаленск не такі ўжо і стары. Пераважная большасць архітэктурнай даўніны датуецца XVII стагоддзем, г. зн. пасля далучэння яго да Расіі. Гарадская каменная забудова бо*лей «маладзейшая», гэта пераважна ма*дэрн канца XIX—пачатку XX стагоддзя.

У адрозненне ад суседніх гарадоў у Смаленску кідаецца ў вочы захаванасць гістарычнага ядра, архітэктурная цэльнасць і завершанасць цэнтральнай часткі горада. Рэшткі мадэрну і архітэктуры XVII стагоддзя не горшым чынам спалучаюцца са «сталінскай» забудовай і пазнейшай.

Аблічча Смаленска фарміруюць найперш Успенскі Сабор, які ўзвышаецца над горадам, і цагляная сцяна крэпасці, якая з невялікімі пярэрвамі і зараз акружае гістарычную частку горада.

Спачатку аглядаем вялізны Успенскі Сабор. Уражвае і вонкавае, і ўнутранае ўбранне. Сабор быў пабудаваны ў 1740 годзе ў памяць абароны ад войскаў Рэчы Паспалітай у 1609—1611 гадах. Насценная шыльда яшчэ царскіх часоў апавядае, што тут, на гары ў Саборы, абаронцы *знайшлі апошні бастыён.* Але каб не здацца ворагу, падпалілі запасы пораху ў падзямеллі. Ад выбуху загінулі і самі. У памяць аб гэтых падзеях на гэтым *самым месцы і быў закладзены* ў 1677 годзе сённяшні Успенскі Сабор. Трохі пазней была пабудавана званіца.



«Смаленск з [illegible]»

Тут жа стаіць Багаяўленскі Сабор канца XVIII стагоддзя. На саборнай гары і шэраг іншых гістарычных будынкаў — пакоі мітрапаліта, кансісторыя, былы архіерэйскі дом.

Крапасныя муры і вежы — таксама забудова, так бы мовіць, расійскага часу. Крэпасць часоў Вялікага княства Літоўскага была драўлянай, і ад яе захаваліся толькі там-сям земляныя бастыёны. Сённяшняя мураванка была закладзена ўвесну 1596 года вядомым расійскім дойлідам, «городовым мастером» Фёдарам Канём. Пры закладцы прысутнічаў і тагачасны фактычны кіраўнік Маскоўскай дзяржавы Барыс Гадуноў, што як бы падкрэслівала палітычную важнасць падзеі... Масква рабіла ўсё, каб утрымаць *за сабой Смаленск ды ўмацаваць сваю* заходнюю мяжу. Пабудова вялася з размахам і вельмі хуткімі тэмпамі. Прыкладна ў 1602 годзе было завершана будаўніцтва, *па ацэнках некаторых сучаснікаў,* адной з самых непрыступных крэпасцей Маскоўскай дзяржавы.

Аднак пасля 2-гадовай аблогі крэпасці *войскамі Рэчы Паспалітай* горад быў захоплены. Польска-беларуска-жмудзінскае войска ў 1611 годзе зрабіла пад муры некалькі падкопаў і парахавымі зарадамі разбурыла ў некаторых месцах непрыступныя сцены, пасля чаго ўварвалася і захапіла горад.

Смаленск «окончательно и бесповоротно» быў далучаны да Маскоўскай дзяржавы ў 1654 годзе. Непрыхільная да Масквы частка насельніцтва была выселена, будынкі ратушы — сімвала магдэбургскага права, гандлёвых радоў, езуіцкага калегіума, касцёлаў былі ў розныя часы разбураны. Ад праяў «польскасці» не засталося і следу. І толькі экскурсаводы сёння апавядаюць турыстам пра «вековую борьбу смолян против польско-литовского ига и за воссоединение с матерью-Россией». Беларусі ж месца ў гісторыі Смаленска і Смаленшчыны не знаходзіцца зусім. Хаця, можа, часткова і таму, што беларускага бракуе і на самой Беларусі.

Праўда, яшчэ ў тыя ж 20-я гады было трохі інакш, калі ў смаленскіх музеях існавалі нават беларускія аддзелы і пастаянныя экспазіцыі, а некаторыя навукоўцы, як, напрыклад, С. Шыраеў, займаліся вывучэннем беларуска-расійскіх узаемаўплываў на Смаленшчыне.

Ад Успенскага Сабора рушым угору па Вялікай Савецкай вуліцы — яна раней і сёння з'яўляецца як бы цэнтральнай у гістарычнай частцы горада. Вуліца ідзе ад Дняпра і выходзіць на плошчу Смірнова, на якой да пачатку 30-х гадоў стаяла галоўная гарадская вежа-брама — Малахаўскія вароты. Менавіта на Вялікай Савецкай месціліся важныя гарадскія ўстановы ў царскія часы і ў 20—30-я гады. Толькі сёння вуліца страціла былое значэнне.

Вось першая «сустрэча» — будынак Смаленскага сельскагаспадарчага інстытута. У 20-х у гэтым доме размяшчаліся службы Беларускай вайсковай акругі, тут ладзіліся і шматлікія культурныя мерапрыемствы для чырвонаармейцаў, сярод якіх было, дзякуючы тэрытарыяльнаму прынцыпу фармавання войска, шмат беларусаў. У тыя часы і культурная праца сярод іх вялася часам па-беларуску. Гэты дом памятае вечарыны творчасці беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, выступленні артыстаў. У гэтым будынку працаваў Кандрат Крапіва, некаторыя іншыя вядомыя беларусы. Тут, між іншым, выходзіла газета акругі «Красноармейская правда», якая час ад часу змяшчала і беларускія вершы. У пачатку 30-х газета выходзіла паралельна і на беларускай мове — «Чырвонаармейская праўда». Размяшчаўся тут і Дом чырвонаармейца, у ім адбываліся канцэрты і вечарыны з выступленнямі паэтаў-чырвонаармейцаў Барыса Мікуліча, Я. Ліманоўскага, Язэпа Васілеўскага...

Суседні дом — сённяшні «Дом кнігі», таксама часцінка беларускай гісторыі. У 20-я гады тут знаходзілася Беларуская секцыя *пры губана, якая займалася* справамі беларускіх школ на Смаленшчыне. У гэтай установе працавалі Т. Агейчык, В. Ганчароў, Гамаліцкі, *М. Ражнова... Мы амаль нічога не ведаем* пра іх. Куды завёў іх жыццёвы шлях? Вядома толькі, што першы ў 1926 годзе пераехаў у Менск. Ён жа перадаў у Інстытут беларускай *культуры* складзены пад час працы ў Смаленску краёвы слоўнік. Куды ж падзеўся чалавек і складзены ім слоўнік? Другі — змяніў на *пасадзе загадчыка секцыі Т. Агейчыка,* напрыканцы 20-х гадоў быў кіраўніком Беларускага зямляцтва ў Смаленску, да сярэдзіны 30-х яго след у Смаленску, *але з 35-га гэты след абрываецца.* Адное можна сказаць пра ўсіх — яны былі неабыякавыя да культуры Беларусі і, чым маглі, служылі ёй.

**(Заканчэнне. Пачатак у № 43 за 25 кастрычніка).**

HOMO HUMANUS

**У адной грэчаскай трагедыі ёсць такія словы: «Што тут не грэх? Усё — грэх». Гэтак, мяркуючы па ўсім, і ў замалёўках Юрася Дубіны ці не ўсюды — грэх і грэшная рэчаіснасць. Нават з'яўляюцца сумлівы наконт адпаведнасці зместу назве рубрыкі: ці не лепей было б змяніць яе найменне на «антыгуманус». Зрэшты, і «антыгуманус» — са сферы праяў чалавечага...**

**Але, магчыма, гэта толькі суб'ектыўнае ўражанне. Таму спусцімся, чытачы, услед за намі ў падземны пераход.**

# ЖЫЦЦЁ НА ПРЫСТУПКАХ,

## або Глыбіня апошняга падзення

Сёння нельга ўявіць гарадскі краявід без жабракоў. Іх легіён. Іншых да жабрацтва падштурхнуў інстынкт самазахавання, а ёсць і «жабракі» па жаданні.

Вось, напрыклад, звычайны будзённы дзень. Час папаўдні, каля трох гадзін дня. Горача. Па сходах спускаюся ў падземны пераход, што каля ГУМа. І перад мною паўстае, *так бы мовіць*, «ідылічная» карціна. Тут жа, на прыступках, сядзіць цыганка гадоў 20, трымаючы на руках сваё немаўля, якое мірна пасапвае. На вочы насунута чорная хусціна, брудная, замусоленая апратка. Працягнуўшы руку наперад, маладзіца чакала падачкі — моўчкі. Як кажуць, каментарыі лішнія. Толькі дзіўным падалося, што з-пад рыззя выглядалі даволі-такі неблагія, даруйце, панчохі. Менавіта гэтая акалічнасць вымусіла мяне трохі паназіраць за *разгортваннем падзей*.

...Люд валам валіў у падземны пераход. Большасць, безумоўна, праходзіла міма выцягнутай рукі, хто са здзіўленнем і пагардаю, а хто і раўнадушна акідваючы цыганку позіркам. Даволі цікава было назіраць за тымі, хто праходзіў паўз яе. Сталая жанчына спынілася, паглядзела коса на маладзіцу і хітнула галавой. «Божа, што робіцца!»— было ў гэтым жэсце. А яшчэ праз нейкі час маладая жанчына дала свайму дзіцяці рубель, каб тое занесла цыганцы. Чаму не зрабіла гэтага сама — адзін Бог ведае.

Многія лічылі сваім абавязкам пакласці ў руку «просящую» ці капейчыну якую, ці рубель, ці траячку. Менш за 15 капеек ніхто не даваў. Калі ж траплялі ў руку купюры, яны тут жа недзе знікалі і пустая рука ізноў маліла аб дапамозе.

*А зараз, пэўна, самае цікавае.* За 5 хвілін дзесяць чалавек далі міласціну маладзіцы. Па самых сціплых падліках, «заробак» склаў 5 рублёў. Праз некаторы прамежак часу яшчэ 10 хвілін паўтарыў свае назіранні. І вось вынікі. Яшчэ 18 спачуваючых раскашэліліся, а сума склала не менш за 10 рублёў. 15 драўляных за 15 хвілін — ужо й няблага! А колькі можна такім чынам «нагараваць» за гадзіну? А за 8-гадзінны «рабочы» дзень?!

Выказванне, *што дайшло да нас са старажытнага Рыма*, сцвярджае: грошы не пахнуць. Для пэўнай катэгорыі людзей у іх яшчэ і філасофія жыцця. Як для нашай, так бы мовіць, гераіні. Мне цяжка, калі гэта ўвогуле магчыма, спасцігнуць такую філасофію, заснаваную на самаўніжэнні з мэтай выцягнуць са спагадлівых людзей зусім не лішнія ў наш «смутны час» грошы. Гэта, аказваецца, не так і цяжка, бо ці можа нехта з нас прайсці міма жанчыны з дзіцем, якія ледзь не паміраюць ад голаду?..

Пэўна, вы пазналі ўжо «жабрачку па жаданні». А што «гераіня» менавіта з такіх — асабіста ў мяне ніякіх сумненняў няма. І пацвярджае маё меркаванне, здавалася б, нязначная, дэталь: новыя панчохі. Чалавеку беднаму, прытым да такой ступені, што прыходзіцца жабраваць, такая раскоша не па кішэні! І другая акалічнасць: названае з'явішча характэрнае для цыганак. Я не хачу стрыгчы ўсіх на адзін капыл. І ў думках такога няма. У пацвярджэнне сказанаму — яшчэ адзін партрэт.

...Памятаецца, ехаў напрыканцы лета дадому, на Століншчыну. Як заўсёды, на маршрутным аўтобусе Мінск — Столін. Калі гадзіннік паказваў 8.20 (час адпраўлення), у аўтобус улезла мажная жанчына гадоў пад 45—50, мяркуючы па ўсім, цыганка. Прыблізна з наступнымі словамі (сэнс дакладны) яна звярнулася да пасажыраў:

— Уважаемые пассажиры! У меня случилось горе: приехав в Минск семьёй из Грузии, мой муж попал в больницу, а я с ребёнком осталась без денег. Мы даже не имеем средств на дорогу. Помогите, кто чем может. Если не верите, что муж действительно в больнице, вот справка — смотрите,— жанчына падняла руку са складзенай (!) паперкай і пайшла па праходзе і ўсім, хто не шкадаваў грошай, жадала шчаслівае дарогі. Толькі ў адным аўтобусе наша «гераіня» «знайшла» не менш за 20 рублёў.

Гісторыя праняла да слёз не аднаго мяне. І ўсё ж не магу даўмецца: чаму, едучы ў такую далёкую дарогу, сям'я не запаслася грашыма? Для чаго, чаму, з якой мэтай была выдадзена даведка? І ці даведка то была? З кім, нарэшце, было дзіця цыганкі, калі яна збірала грошы?

Пытанні, пытанні...

Мінск, як і другія савецкія гарады,— суцэльны парадокс... Зайшоў я неяк у сталоўку, што між гасцініцай «Мінск» і Домам урада знаходзіцца,— падсілкавацца. Стаў у чаргу. Ззаду да прылаўка падыходзіць мужчына гадоў 65, бярэ салату і ідзе да столікаў. Маладая павар'ыха, убачыўшы тое (сама яна, відаць, пасаромелася вярнуць згаданага мужчыну), паказала на яго сваёй старэйшай сяброўцы. Тая, маючы за плячыма вялікі вопыт, *узарвалася:*

— Э-э, маэстро, а ну вернись! Ты что, *не слышишь?*

На такі калючы маналог мужчына не *зьярнуў увагі. Тады павар'ыха рынулася* на яго. Што адбывалася між імі — не ведаю, не бачыў. Вярнуўшыся на сваё працоўнае месца, на пытанне «Ну что?» з агідаю адказала: «Говорит, что съел»...

Сеўшы за столік, я абачліва павярнуўся тварам да мужчыны. І стаў сведкам даволі непрыемнай карціны. Стары чалавек, пасівелы, у бруднай, ледзь не закарэлай вопратцы стаяў каля транспарцёра, на які наведвальнікі сталоўкі адносілі посуд з рэшткамі ежы, і забіраў на свой стол талеркі з аб'едкамі. Абставіўшыся імі з усіх бакоў, ён прыступіў да «трапезы» —стаў пахапкам есці недаедкі. Мне зрабілася непамысна... Закончыўшы «трапезу», мужчына ўзяў невядома як трываўшую яшчэ торбу і рушыў да выхаду. Разы са два яшчэ нагнуўся, падняў штосьці з падлогі і... кінуў у рот...

Я зразумеў, што гэта — бомж. Адзін з многіх, хто страціў усё чалавечае, пра якіх гавораць «усё сваё нашу з сабой». Іх усё больш з'яўляецца на нашых вуліцах.

Вусцішна, вусцішна...

Горкаўскія слоўцы «каждый сам себе судьба», якія раней усюды гучалі, зараз могуць выклікаць хіба што горкую ўсмешку. Усе мы пад Богам ходзім, ды й пад «власть имущими». Таму ўсе мы — над безданню.

...Яго я спаткаў таксама на прыступках *падземнага пераходу* *водблізь* чыгуначнага вакзала. Маючы за плячыма гадоў 75 жыццёвага цяжару, ён сядзеў, выцягнуўшы ўперад свой пратэз. Досыць нягеглая знешнасць: карычневыя нагавіцы, гумавыя боты, асенняе паліто з капюшонам, пад якім сіні світэр,—ніякага ўражання не робіць. Хіба толькі няярасаўскі твар з барадою, акропленай сівізной, ды яшчэ спартыўная шапачка, куды любая шчодрая рука магла кінуць старому на «пропитание». Вочы *агоныя — поўныя тугі, апушчаныя* долу—выклікалі шчымлівы боль. Гледзячы на яго, міжволі да горла падкатваецца камяк.

Я доўга назіраў за старым. Кожнаму, хто нагінаўся і кідаў у шапку ці то манетку, ці *то папяровыя грошы*, ён моўчкі ўслед пасылаў крыж, а праз нейкі час... ужо толькі ўдзячна ківаў галавой.

Я не стрываў. Падышоў да старога, кінуў у ягоную «скарбонку» рубель і, пераможваючы сам сябе, не жадаючы вярэдзіць ягоную душу і абудзіць, можа, сядзеўшага, у ім звера, запытаў:

— Вы часта тут бываеце?

Ён падняў на мяне вочы:

— Часта.

— І колькі прыкладна збіраеце за дзень?

— Рублёў 50.

— Вам што, няма дзе жыць?

— Ёсць.

— А родзічы ёсць?

— А як жа, — прагучаў раўнадушны адказ.

— Дык вы жывяце толькі з міласціны?!

— Не, я атрымліваю пенсію.

— Што ж прымушае вас тут сядзець?

— А жыць як? Як харчавацца? Хіба на 70 рублёў пенсіі пражывеш?

Цяжка мне зразумець, дзе гэты чалавек набраўся рашучасці, каб так прыніжацца, жабраваць...

●

Іх, «униженных и оскорблённых», многа. І ўсё яны падобныя адзін да аднаго, як блізняты. Старэнькія, зморшчаныя бабулі і дзяды, якія сапраўды дажываюць свой век на прыступках. А можа, не дажываюць, а — паміраюць? Прыступкі ў пераходзе — іх апошняе прыстанішча. І можа здарыцца так, што ў адзін дзень нехта з іх тут жа, на прыступках, з выцягнутай рукой ціха адыдзе ў свет іншы. Нібыта за сваё жыццё не заслужыў лепшай долі...

Жабрацтва — ганьба нашага жыцця, ганьба сацыяльнай сістэмы. Шалёны гон цэн выкінуў на вуліцы новую хвалю знямоглых людзей, якія, каб выжыць, мусяць альбо жабраваць, альбо накідваць пятлю на шыю...

І мы не застрахаваныя ад таго, што не *прыйдзецца зрабіць такі выбар*. У прынцыпе, на месцы гэтых няшчасных можа аказацца ці не любы з нас.

Не дай Божа каму-небудзь з нас скончыць сваё жыццё на прыступках, пранясі «чашу сию» міма.

**Юрась ДУБІНА.**

# ПРЫ СВЯТЛЕ ПОЎНІ

## Прытча пра бел-чырвона-белы сцяг

У азёрным сінявокім краі спакон веку жылі дружныя, шчырыя і працавітыя людзі. Але адны лічылі сябе правымі, а другія — левымі. Адным падабаўся чырвоны колер, другім белы. «Чырвоны — гэта сімвал ісціны і братэрства», — казалі правыя. «Белы ўвасабляе ў сабе веру, надзею і любоў», — сцвярджалі левыя. І тыя і другія білі сябе кулакамі ў грудзі — на нашым баку праўда, гуртаваліся на плошчах, спрачаліся, сварыліся, загрудкі хапаліся. У паветры пахла порахам.

Каб не пралілася кроў, на галоўнай плошчы галоўнага горада сабралася галоўнае веча. Яно вырашыла: правыя павінны надзяваць белыя кашулі, а левыя — чырвоныя. Тады ні адны, ні другія не будуць страляць у свой колер. Угаманіліся людзі, паспакайнелі.

Але аднаго разу высакародны прыгожы юнак (ці правы, ці левы — не відаць было хто, месячык яшчэ не ўзышоў на небе) праводзіў з вечарыны высакародную прыгожую дзяўчыну. Дарогу ім заступіў нядобры злы юнак (невядома, ці правы, ці левы), выхапіў з-пад крыса абрэз і стрэліў. Кроў хлынула з грудзей юнака. Дзяўчына сарвала з галавы хусціну, перавязала яго рану.

Зноў сабралася на галоўнай плошчы галоўнага горада галоўнае веча. Яно закляйміла ганьбай злога юнака. І пра белую чыстую хусцінку, залітую гарачай крывёю, веча сказала сваё высокае слова: прызнала яе нацыянальным сцягам сінявокага краю. Сімвалам ісціны і братэрства, увасабленнем веры, надзеі і любові.

Быў цёплы вечар, у небе свяціла поўня, калі галоўнае веча на галоўнай плошчы у галоўным горадзе абвясціла сваё рашэнне народу — і левым, і правым.

Адбылося гэта даўным-даўно, у глыбіні сівых вякоў, а людзі берагуць у памяці. Бо рака жыцця цячэ і цячэ — спаконвечна. Не забруджвалі б толькі яе ні правыя, ні левыя.

**Аляксандр КАПУСЦІН.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**
**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ— 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: —33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.



Індэкс 63856
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12